

# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

13 ЛІПЕНЯ 2001г. № 28/4112 КОШТ 129 РУБ.

## “ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ”

***Быў час, калі ў нашай краіне ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выходзіў штогадовы альманах “Дзень паэзіі”. На жаль, ужо хутка будзе дзесяць гадоў як “ДП” нават і не значыцца ў планах нашых выдавецтваў... Але паэты як працавалі, так і працуюць, нягледзячы на не вельмі паэтычны час, ні на тое, што кніжкі паэзіі выходзяць рэдка, а калі і выходзяць, то мізэрнымі тыражамі. Пра тое, што паэзія жыве і паэты працуюць, сведчыць і наш лімаўскі “Дзень паэзіі”. Свае новыя вершы сёння чытачам “ЛіМа” прапануюць: Ніна ЗАХАРЭВІЧ, Анатоль ДЭБІШ, Анатоль ЗЭКАЎ, Уладзімір МІЦКЕВІЧ, Барыс ДАВІДЗЮК, Генадзь ЛАПАЦІН, Серафіма БЕСТАВА, Ігар ПРАКАПОВІЧ, Святлана КАРОБКІНА, Зміцрок МАРОЗАЎ, Уладзімір ЦІШУРОЎ, Ларыса РАМАНАВА, Марыя БАРАВІК, Сяргей ПАТАРАНСКІ, Мікола АЛЯХНОВІЧ, Генадзь ПРАНЕВІЧ, Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ, Святлана ВАРОНІК, Галіна ВАРАТЫНСКАЯ, Уладзімір ВАСІЛЬКОЎ, Іван МОНЦІК, Уладзімір ВАСЬКО, Галіна БАБАРЫКА, Вольга КОВАЛЬ, Эдуард ГРАКОВІЧ, Іван КЛІМЯНКОЎ, Алесь КОРНЕЎ, Аляксандра БАБАРЫКА, Таццяна МУШЫНСКАЯ, Сяргей РАБЧУН, Святлана АБДУЛАЕВА, Алесь ГЕРАСІМЕНКА, Мечыслаў ШАХОВІЧ, Галіна ЯБЛОНСКАЯ, Зміцрок КУЗМЕНКА, Адольф ВАРАНОВІЧ, Аляксандра КРАСОЎСКАЯ, Васіль ГАЙДА, Галіна САМОЙЛА, Уладзімір ШПАДАРУК, Іван ЛАГВІНОВІЧ, Надзея САЛОДКАЯ, Алесь КЛАЧКОЎ, Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ, Тамара МАЗУР, Галіна КАСПЯРОВІЧ, Іна АМЕЛЬЧАНКА і іншыя.***

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! На “ЛіМ” на другое паўгоддзе 2001 года падпісацца ніколі не позна! Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **690** рублёў, на тры — **2070** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — **1800** рублёў, на тры — **5400** рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**







# Ведае кожны жыхар

Звычайна, абжыўшыся на нейкім месцы, улада яго ўжо не пакідае — хіба што здарыцца якая-небудзь рэвалюцыя альбо землятрус. Ды і рэвалюцыі часам толькі мяняюць сцягі на флагштоках ды засяляюць старыя ўрадавыя апартаменты новай генерацыяй чыноўнікаў. Класічны прыклад — Маскоўскі крэмль, які ад першых князёў да апошніх генсекаў быў, ды і зараз застаецца, месцам знаходжання ўлады. А вось у Мінску, як сталіцы маладой, такой пераемнасці няма. Не захавалася ні княжацкая рэзідэнцыя, ні ратуша часоў Магдэбургскага права, ні дом расійскага генерал-губернатара. Усё, што для нас сімвалізуе ўладу, пабудавана ў 30—50 гадах XX стагоддзя — па сутнасці, літаральна ўчора.

Дом урада. Зараз вакол яго набудавана новых адміністрацыйных гмахаў. А сам ён узнік у 1934 годзе. Старыя мінчукі кажуць, што напачатку ён здаваўся нейкім монстрам: настолькі ціснуў сваёй масай на асяроддзе і псіхіку месцічаў.

Прэзідэнцкая рэзідэнцыя. Пры бальшавіках — дом ЦК КПБ, пры дэмакратах на кароткі час — будынак Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Будаваўся ў 1939—1941 гадах, завяршылі будоўлю пасля вайны, у 1947 годзе. А потым, у 1976—1978 гадах, па меры пашырэння штату ЦК КПБ да яго зрабілі тры прыбудовы. Цяпер ён мае замкнёную кампазіцыю і двор-калодзеж.

Пасля вызвалення горад яшчэ ляжаў у руінах, а мінчукі ўжо будавалі гмах КДБ-МУС. Потым ён таксама некалькі разоў дабудоўваўся. Займае цэлы квартал.

Міністэрства абароны. Раней тут быў штаб Беларускай ваеннай акругі. Стаіць на вельмі прыгожым месцы. Будынак бачны здалёк. Побач парк.

Гэтыя будынкі ведае кожны жыхар Мінска, хоць не кожны скажа, дзе знаходзіцца Мастацкі музей альбо Купалаўскі тэатр. Хацелася б, каб было наадварот...

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*





# КОЛА ДЗЁН

***Дні праходзяць, дні лятуць... Вось і мінула амаль палавіна ліпеня і дзень пачаў, хай па адной хвіліне, скарачацца. Людзі ўжо думаюць пра ўраджай, пра восень, пра 9 верасня... А жыццё не канчаецца...***

## СПРАВАЗДАЧА ТЫДНЯ

У Нацыянальным прэс-цэнтры Беларусі адбылася прэзентацыя чарговай Глабальнай справаздачы аб чалавечым развіцці. Згодна з дадзенымі справаздачы па індэксе чалавечага развіцця Беларусь перамясцілася за апошні год з 57 на 53 месца і апярэджвае Расію на два пункты. Латвія перагнала нашу краіну і займае цяпер 50 месца. Апераджае нас і Літва, якая цяпер на 47 месцы. Але, як бы там ні было, Беларусь пастулова па індэксе чалавечага развіцця падымаецца ўверх. І гэта дае нам надзею...

## ГРУПА ТЫДНЯ

У Палаце прадстаўнікоў створана дэпутацкая група "Еўропа — наш агульны дом", якую ўзначаліў намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Анатоль Красуцкі. У дэпутацкую групу ўвайшло 14 чалавек, сярод якіх і Вячаслаў Кебіч. Асноўнымі задачамі групы называюцца развіццё ўсебаковага супрацоўніцтва з парламентамі еўрапейскіх краін, у тым ліку з Дзяржаўнай Думай Расіі і Вярхоўнай Радай Украіны; стварэнне спрыяльнага прававога і палітычнага клімату для прыцягнення ў краіну інвестыцый; інтэграванне беларускай эканомікі ў еўрапейскую супольнасць; фарміраванне заканадаўчай базы для рынкавых рэформаў, накіраваных на стымуляванне развіцця прадпрымальніцтва, малога і сярэдняга бізнесу; станаўленне дэмакратычнай прававой і сацыяльнай дзяржавы. Сродкам масавай інфармацыі А. Красуцкі заявіў, што дэпутацкая група "Еўропа — наш агульны дом" не з'яўляецца апазіцыйнай.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася 60 гадоў часопісу "Вожык". З'явіўся ён на свет у пачатку Вялікай Айчыннай вайны і выходзіў як агітплакат пад назвай "Раздавим фашистскую гадину!" Хросным бацькам выдання быў Кандрат Крапіва. Першымі супрацоўнікамі плаката былі Янка Купала, Якуб Колас, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Максім Лужанін. Першыя нумары — рускамоўныя, але хутка плакат, дзякуючы сваёй папулярнасці сярод партызан Беларусі, пачынае выходзіць па-беларуску. Пасля вайны выданне займела сучасную назву — "Вожык". За 60 гадоў існавання выдання пабачылі свет 1378 нумароў "Вожыка" і 236 кніжак дадатку — "Бібліятэкі "Вожыка". Віншуем супрацоўнікаў часопіса і яго чытачоў з юбілеем і жадаем і надалей "Вожыку" заставацца верным шляху, па якім ён ідзе ўжо 60 гадоў.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Метро ў вялікім горадзе — гэта самы хуткасны і самы папулярны транспарт сярод гараджан. З якой нецярплівасцю чакаюць, да прыкладу, жыхары мінскай "Малінаўкі" таго часу, калі ў іх мікрараён будзе пракладзена лінія метро. У планах у метрабудаўцаў такая лінія ёсць, але пакуль што сёлета ў Мінску распачнецца будаўніцтва дзвюх новых станцый. У Мінгарвыканкаме ўхвалены праект па працягу на 2,7 кіламетра лініі метро ад станцыі "Усход". Ужо вядома, што першая з новых станцый будзе называцца "Барысаўскі тракт". Прыгожа! Хутчэй бы праект стаў явай, бо пра метро мараць не толькі мінчане, якія жывуць ва Уруччы.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Прэс-цэнтр Дзяржкамітэта пагранічных войскаў распаўсюдзіў паведамленне для СМІ. У ім гаворыцца, што за апошні час у ДКПВ неаднаразова паступалі пісьмы за подпісам в. а. старшыні КХП "БПФ" Юрыя Беленькага, у якіх кіраўніцтва партыі прасіла паведаміць, "на якой падставе імя грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Зянона Станіслававіча Пазняка ўнесена ў спісы пагранічнага кантролю". У адказ на гэтыя звароты камандаванне пагранвойскаў зноў пацвярджае, што імя Зянона Пазняка "не значыцца на картатэчным уліку пагранічнага кантролю". А таму, падкрэсліваецца ў афіцыйным паведамленні, ніхто з пагранічнікаў не збіраецца рабіць перашкод Зянону Пазняку пры яго вяртанні на радзіму. Нягледзячы на ўсё гэта, З. Пазняк не спяшаецца вяртацца. Чаму?

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь плануе ў перыяд з 20 да 24 ліпеня ў залежнасці ад рэгіёна пачаць уборку збожжавых. У гэтым годзе было засеяна 2,7 млн. га, што на 6 працэнтаў больш, чым летась. Па папярэдніх ацэнках ураджай збожжавых складае да 6 млн. т. пры ўмове, што своечасова пачнецца ўборка і будзе спрыяльнае надвор'е. Словам, планы добрыя, але, як заўсёды, планы — планамі, а жыццё — гэта жыццё...

## ТРЭШЧЫНА ТЫДНЯ

На ўчастку Мазыр—Брэст адбыўся прарыў нафтаправода "Дружба". У выніку гэтага здарэння нафтапрадукт трапіў на грунт плошчай каля 100 квадратных метраў. Сітуацыя ўскладнілася тым, што нафта трапіла і ў меліяратыўны канал, які злучаецца з іншымі вадаёмамі. Аднак работнікі аварыйнай службы змаглі хутка лакалізаваць прарыў, і рамонтныя работы былі зроблены за гадзіну. Трэшчына ў нафтаправодзе з'явілася ў выніку карозіі металу. Праўда, некаторыя СМІ ў гэтай трэшчыне ўбачылі дыверсію з боку нядобразычлівіцаў цяперашняй улады...

## БЯДА ТЫДНЯ

Апошнімі гадамі летам нашу краіну наведваюць рознай сілы бураны, якія наносяць немалую шкоду гаспадаркам. Вось і нядаўна парывісты вецер падчас навальніцы, што прайшла на тэрыторыі Брэсцкай вобласці, нанёс страты на суму каля дзесяці мільёнаў рублёў. Былі пашкоджаны некаторыя пабудовы, абарваны правады ліній электраперадачы і г. д. Матэрыяльныя страты з цягам часу кампенсуюцца людской працай. Але нішто не верне чалавечыя жыцці. Так у час навальніцы ў вёсцы Бякінічы, што на Піншчыне, былі смяротна траўміраваны разрадам маланкі жыхар Пінска і вучань 11-га класа адной з пінскіх школ. Загінуўшых маланка напаткала ў стозе сена, дзе яны хаваліся ад дажджу. І гэта не адзіны страшны выпадак, што адбыўся ў апошнія дні падчас навальніц у нашай краіне. І хоць гаворыцца, што супраць стыхіі чалавек бяссільны, а ўсё ж варта памятаць і пра тое, што чалавечы лёс шмат у чым залежыць ад самога чалавека. Беражыце сябе!

## НЛА ТЫДНЯ

Карэспандэнт БелаПАНа распаўсюдзіў у друку інфармацыю, што многія жыхары Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці сцвярджаюць, як на пазамінулым тыдні бачылі ў небе неапазнаны лятаючы аб'ект. Па словах мясцовага фермера Юрыя Крушкіна, над лесам, што ў некалькіх сотнях метраў ад ягонай сядзібы, ноччу з'явілася незразумелае свячэнне, а затым над ім з'явіўся другі мігатлівы шар невядомага паходжання. Як сцвярджаюць відавочцы, ад другога аб'екта адышлі два прамяні, падобныя да вясёлкі, пасля чаго першы шар пацямнеў, а другі апусціўся ўніз. Такое вось НЛА...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Сярод дэлегатаў III з'езда беларусаў свету былі пісьменнікі з Санкт-Пецярбурга і Палтавы Анатоль Кірвель і Іна Снарская. І, безумоўна, яны, сябры нашай творчай суполкі, не маглі не скарыстаць прыезд у Мінск, каб правесці ў Саюзе пісьменнікаў прэзентацыю сваіх новых твораў.

І яна адбылася ў час аднаго з перапынкаў у рабоце з'езда, у канферэнц-зале Дома літаратара. Пра творчасць І. Снарскай і А. Кірвеля гаварылі, прадстаўляючы іх, В. Іпатава і Н. Гальпяровіч. Госці чыталі свае новыя творы, адказвалі на пытанні прысутных, і, вядома ж, прэзентавалі свае новыя кнігі.

Прысутныя аднадушна адзначылі высокі прафесійны ўзровень аўтараў, радаваліся, што яны і ўдалечыні ад Радзімы верна служаць роднаму беларускаму слову.

**Н. К.**

●

У дзень 150-годдзя Янкі Лучыны да магільнай пліты паэта на Кальварыйскіх могілках ляглі жывыя кветкі ад Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы. Ва ўрачыстым ускладанні прынялі ўдзел Навум Гальпяровіч, Віктар Праўдзін, Уладзімір Мархель, Яўген Каршукоў, Павел Саковіч, Зміцер Вішнёў, а таксама старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў. Цяпер у Саюзе пісьменнікаў рыхтуюцца да вечарыны ў гонар 150-годдзя Янкі Лучыны, якая пройдзе ў вялікай зале Дома літаратара ў канцы ліпеня.

●

Культурная акцыя "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла" пасля Віцебшчыны і Гомельшчыны прыйшла і на Брэстчыну — у Іванаўскі і Жабінкаўскі раёны.

Усё больш чынны ўдзел у ёй разам з Міністэрствам культуры бярэ Саюз пісьменнікаў. І не проста, як гэта часта бывае, едуць пісьменнікі, каб аздобіць сваёй прысутнасцю канцэрты музычных калектываў. Сустрэчы з чытачамі сталі адной з асноўных складаемых гэтага культурнага дэсанту.

Выдатна падрыхтаваліся да сустрэчы з літаратарамі ў Іванаўскай раённай бібліятэцы. Спецыяльныя стэнды былі прысвечаны гасцям — лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Уладзіміру Ліпскаму, пісьменнікам Навуму Гальпяровічу і Анатолю Зэкаву, мастаку Уладзіміру Капшаю.

Прасторная зала бібліятэкі была перапоўнена. Людзі цікавіліся не толькі творамі прыехаўшых да іх майстроў пяра і пэндзля, а і дзейнасцю пісьменніцкага Саюза, праблемамі кнігавыдання. Разам з гасцямі ў Іванаве на сустрэчы прысутнічаў паэт Андрэй Мазько, а ў Жабінцы — Алесь Каско і Расціслаў Бензярук.

У Жабінцы, у цэнтральнай бібліятэцы, таксама было шмат жадаючых атрымаць аўтографы, пагутарыць з пісьменнікамі. Не ўсе нават змаглі змясціцца ў глядзельную залу, і людзі стаялі на калідоры. А калі дадаць, што ў Іванаве і Жабінцы пісьменнікі прымалі ўдзел у вялікай канцэртнай праграме, то без перабольшання можна сказаць, што за два дні на Брэстчыне іх чытацкая аўдыторыя склала не адну тысячу чалавек.

Наперадзе ва ўдзельнікаў акцыі "Майстры мастацтваў — працаўнікам сяла" паездкі на Міншчыну, Магілёўшчыну, Гродзеншчыну.



*Выступае старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга ІПАТАВА.*



*З фальклорным гуртом "Чысцінка" Маладзечанскага раёна танцуе аташэ Пасольства Японіі ў Беларусі Косіна ГО, які не толькі цікавіцца беларускай культурай, але і вывучае беларускую мову.*

Як заўсёды, актыўны ўдзел у святкаванні дня нараджэння Янкі Купалы прынялі разам з музейшчыкамі творцы. У Вязынцы пабывалі 8 ліпеня Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Мечыслаў Шаховіч. Разам з імі на імправізаванай сцэне выступілі маладыя паэты Зміцер Вішнёў і Валерыя Кустава.

**Н. К.**

*Фота А. КАЛЯДЫ*

## У Канфедэрацыі творчых саюзаў новы прэзідэнт

Адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў". Са справаздачным дакладам выступіў віцэ-прэзідэнт канфедэрацыі Л. Екель. У спрэчках прынялі ўдзел намеснік міністра культуры Ю. Стральчонак, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, старшыня Саюза майстроў Я. Сахута, старшыня Саюза дызайнераў Д. Сурскі, старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, намеснік старшыні СБП, дырэктар "Беллітфонду" У. Мачульскі, старшыня Саюза кінематаграфістаў Ю. Марухін, старшыня Саюза мастакоў Г. Буралкін, галоўны рэдактар штотыднёвіка "ЛіМ" А. Пісьмянкоў і іншыя.

З прамовай да дэлегатаў канфедэрацыі звярнуўся памочнік Прэзідэнта краіны С. Посахаў.

Адбыліся выбары кіраўніцтва канфедэрацыі. Прэзідэнтам Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў абраны Іван Вашкевіч, віцэ-прэзідэнтамі — Леанід Екель і Вольга Іпатава.

КАНЦЭРТЫ

## З абноўленай праграмай

Дзяржаўны камерны хор Беларусі, які стварыўся, сталеў і набываў вядомасць пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова, у сёлетнім сезоне працуе з новым галоўным дырыжорам — Наталляй Міхайлавай. Падчас калядных імпрэзаў у касцёле святых Сымона і Алены, а таксама на лютаўскім канцэрце ў Вялікай зале сталічнай філармоніі публіка мела магчымасць пазнаёміцца з эстэтычнай пазіцыяй абноўленага калектыву. Рэпертуар яго будзе цяпер фарміравацца з улікам розных жанраў і стылёвых напрамкаў, вядомых у харавым мастацтве, уключаючы музыку беларускіх кампазітараў.

Нядаўна, завяршаючы сезон, камерны хор на чале з Н. Міхайлавай зноў даў канцэрт у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У новай праграме была прадстаўлена і кантата Уладзіміра Карызны на вершы Максіма Багдановіча.

Адна з актуальных задач калектыву — актыўна ўключыцца ў фестывальны рух, аднавіць гастрольную дзейнасць. І першы крок ужо зроблены: Дзяржаўны камерны хор Беларусі ўпершыню запрошаны на Міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа", які праходзіць у Магілёве гэтымі днямі, з 12 па 15 ліпеня. У наступным годзе плануецца творчая вандроўка ў Польшчу.

**Н. К.**

# Туга па беларушчыне

На два дні, 5 і 6 ліпеня, у Беларусі трохі паболела беларусаў. У Мінску ў памяшканні Дома літаратара прайшоў III з'езд беларусаў свету.

А ўсяго зараз на планеце жыве каля 13 мільёнаў беларусаў: 10 мільёнаў — у Беларусі, яшчэ каля 3 — за яе межамі. Самая вялікая беларуская дыяспара ўтварылася ў Расіі, яна складае 1 мільён 200 тысяч чалавек, на другім месцы Украіна — 440 тысяч, на трэцім — Польшча, дзе жыве 350 тысяч нашых суродзічаў. У Казахстане апынулася 180 тысяч беларусаў, у Латвіі — 120 тысяч, у Літве — 65 тысяч. На з'езд прыехалі прадстаўнікі беларускіх суполак таксама з ЗША, Нямеччыны, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Бельгіі ды іншых краінаў.

Як і чатыры гады таму, калі ладзіўся другі з'езд беларусаў свету, на трэцім нацыянальным форуме таксама не ўдалося пазбегнуць некаторай скандальнасці. Усё пачалося з таго, што ўзніклі праблемы, дзе яго праводзіць. Мерапрыемствы такога статуса, у прынцыпе, мусяць адбывацца ў будынках кшталту Палаца Рэспублікі, аднак арганізатарам III з'езда беларусаў свету выпадаў усяго толькі ДК тонкасуконнага камбіната. Гэтае месца было зменена на дазволены ўладамі Дом літаратара толькі ў самы апошні момант (нават запрашальнікі былі ўжо надрукаваныя з пазнакай, што з'езд мае адбыцца менавіта ў ДК "Сукно").

Толькі разабраліся з будынкам, як у першы дзень з'езда высветлілася, што на ім няма прыкладна трацiны чаканых дэлегатаў. Спрацавалі рэкамендацыі беларускім суполкам за мяжой ад нашых пасольстваў там і Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальных меншасцяў не ехаць на Купалле ў Мінск, бо з'езд, маўляў, будзе пераtвораны ў апазіцыйнае палітычнае шоу. Дзіўнае азначэнне форуму, дзе заўжды і ў прыярытэтным парадку дэкларавалася вызнанне натуральных прынцыпаў незалежнасці Беларусі і дзяржаўнасці беларускай мовы. Хоць, што праўда, пра палітыку 5 і 6 ліпеня ў Доме літаратара гаварылася. Дэлегатаў, прычым на прыкметна няроўныя часткі, падзяліла тое, як яны ставяцца да цяперашняй дзяржаўнай палітыкі Беларусі.

На III з'ездзе беларусаў свету была абмеркавана і прынята адмысловая праграма дзеянняў па кансалідацыі і дапамозе беларускай дыяспары за мяжой пад назвай "Сусветная беларуская супольнасць у XXI стагоддзі", Яна разлічана на перыяд да 2005 года. У прадмове да гэтага дакумента адзначаецца, што "на пачатку III-га тысячагоддзя беларуская нацыя знаходзіцца на парозе фізічнага і духоўнага знішчэння. Некалькі гадоў запар на Беларусі смяротнасць перавышае нараджальнасць і ўпершыню за многія гады колькасць насельніцтва ў краіне налічвае менш за 10 мільёнаў. Занядбаны стан культуры і мовы, стагнацыя ў эканоміцы, наступствы чарнобыльскай катастрофы, нарастаючыя працэсы эміграцыі — усё гэта не можа не выклікаць вялікай трывогі". Апрача таго, даводзіцца, што "пытанні развіцця ўзаемаадносін і дапамогі беларускай дыяспары не сталі адным з важнейшых накірункаў знешняй палітыкі Беларусі". У прыватнасці, на сёння не выканана дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", якая была распрацавана Акадэміяй навук, зацверджана Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1993 годзе і ўхвалена дэлегатамі Першага з'езда беларусаў свету. Гэтаксама не выканана большасць прапаноў, выкладзеных тады ж у "Звароце да Парламенту і Ураду Рэспублікі Беларусь", які потым быў

# Беларусы замежжа сустрэліся з міністрамі

***Шостага ліпеня, зранку, удзельнікі трэцяга з'езда беларусаў свету сустрэліся ў Саўміне з прадстаўнікамі ўрада рэспублікі. Пасяджэнне вёў намеснік прэм'ер-міністра Міхаіл Дзямчук. На пытанні гасцей адказалі міністр адукацыі Васіль Стражаў, старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны.***

Пра свае замежныя праблемы расказалі прадстаўнікі беларускіх дыяспар з Эстоніі, Украіны, Літвы, Латвіі, Беласточчыны, Расіі. Агульным папрокам у бок улад гучала наступнае: беларускаму замежжу надаецца недастатковая ўвага. "Як вы да нас ставіцеся, так да нас ставяцца і мясцовыя ўлады!" — прамаўлялася ледзь не ў кожным выступе ўдзельнікаў з'езда.

Беларуская амбасада ў Эстоніі, як гаварылі госці, з абразай паставілася да дэлегацыі, што ад'язджала ў Мінск. Маўляў, "тусавацца" ездзіце і толку ад гэтага — аніякага. "Я не прашу дапамогі, — запэўнівала талінская беларуска ў саўмінаўскай зале. — Толькі не зняважайце нас!"

Па словах расійскіх беларусаў, у Маскве і па сёння няма беларускага нацыянальна-культурнага цэнтра, няма не толькі нацыянальнай школы, нават класа. Латышская, літоўская, украінская школкі дзейнічаюць (нават рускія аддаюць туды на навучанне сваіх дзяцей), а беларуская дыяспара — абдзеленая па прычыне чынавенскай абыякавасці прадстаўнікоў беларускіх улад.

Шмат гаварылася пра інфармацыйны голад у замежжы. Апрача "Голасу Радзімы", атрымаць іншыя газеты (і дзяржаўныя, і незалежныя) надзвычай цяжка. Няма беларускіх перадач на мясцовым замежным тэлебачанні, радыё. Неаднаразова ўзнімалася і пытанне моўнага заняпаду на Беларусі. "Зрабіце так, каб нам у замежжы не было сорамна за радзіму, — прасілі міністраў госці. — Усё астатняе мы зробім самі!".

Падчас сустрэчы з замежнымі беларусамі Міхаіл Дзямчук запэўніў іх, што напрыканцы гэтага года ці ў пачатку наступнага абавязкова пройдзе Кангрэс беларусаў свету, на якім будзе ўсебакова і грунтоўна абмеркаваны Закон аб суайчынніках.

На сустрэчы ў Саўміне кожны меў магчымасць атрымаць у падарунак шыкоўна выдадзеную кніжку "За сильную и процветающую Беларусь" з матэрыяламі другога Усебеларускага народнага сходу, які адбыўся ў траўні.

**Наш кар.**

# Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 374

**Аб вызваленні асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў" і творчых саюзаў Рэспублікі Беларусь ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць.**

У мэтах развіцця творчай дзейнасці і ўмацавання матэрыяльнай базы Асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў" і творчых саюзаў Рэспублікі Беларусь і ўлічваючы іх сацыяльную значнасць у сферы культуры, **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што асацыяцыя грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў" і творчыя саюзы Рэспублікі Беларусь вызваляюцца ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць згодна з дадаткам.

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Указам;

прыняць іншыя меры, накіраваныя на рэалізацыю гэтага Указа.

3. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА**

*9 ліпеня 2001 г., г. Мінск*

## Пералік грамадскіх аб'яднанняў, якія вызваляюцца ад выплаты падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць

ДАДАТАК ДА УКАЗА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 09.07.2001 N 374

Асацыяцыя грамадскіх аб'яднанняў "Беларуская канфедэрацыя творчых саюзаў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз архітэктараў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз дызайнераў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз журналістаў"

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз кінематаграфістаў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі аўтарскі фонд кампазітараў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз тэатральных дзеячаў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз мастакоў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі фонд культуры"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз музычных дзеячаў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз майстроў народнай творчасці"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі літаратурны фонд"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз кампазітараў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў"

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская гільдыя акцёраў кіно"

Грамадскае аб'яднанне "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

ВЫСТАВЫ

# Адчуць на... скуры

Выстава, якая днямі адчынілася ў Музеі сучаснага мастацтва, прыцягвае да сябе шмат наведвальнікаў, нягледзячы на "мёртвы" летні сезон. І не толькі таму, што гэта першая персанальная выстава маладой мастачкі Ірыны Дзёмінай, якая толькі у 1992 годзе скончыла Беларускую акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці "шкло". Проста Ірына спецыялізуецца і любіць такі матэрыял, як скура. З натуральнай скуры можна ствараць непаўторныя кампазіцыі, але не кожнаму даецца дасягаць у такім матэрыяле майстэрства сапраўднага мастака-дэкаратывіста. На яе выставе вы не знойдзеце утылітарных дробязей. Мастачка прадставіла сем сукенак са скуры, якія выглядаюць цэласнай калекцыяй. Нечаканыя знаходкі кампазіцыйных дэталяў, сілуэтаў і агульнага вобраза дазваляюць аднесці гэту калекцыю да подыумнай. Пасля ўвагу прыцягнуць толькі на першы погляд больш сціплыя дэкаратыўныя пано са скуры, што размесціліся на сценах невялікай залы. Кожная яе работа нечакана непаўторная, яна мае свой мастацкі вобраз: птушкі ("Варонка зімы"), ваўка ("Прысвячэнне"), залатых узгоркаў ("Дзюна") і г. д.

На Беларусі не так ужо многа мастакоў прафесійна і стала займаюцца вырабамі са скуры на ўзроўні выставачных работ. Ірына Дзёміна знайшла тут не толькі цікавую мастацкую вобразнасць, але і чытэльны, выразны аўтарскі стыль. Сама ж Ірына, узрушаная сваёй першай выставай, найбольш дзякавала падтрымцы фірмы "Антинея НТ", што вырабляе манекены і абсталяванне для швейнай прамысловасці.

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

дапоўнены падчас Другога з'езда беларусаў свету ў 1997 годзе.

Распрацаваная ЗБС "Бацькаўшчына" праграма "Сусветная беларуская супольнасць у XXI стагоддзі" ўважаецца за яшчэ адну спробу звярнуць увагу беларускай дзяржавы і грамадства да праблемаў нашых суайчыннікаў за мяжой. За мэты дэкларуюцца "кансалідацыя беларускай нацыі дзеля духоўнага, эканамічнага і дзяржаўнага адраджэння Бацькаўшчыны" і "захаванне беларускай прысутнасці ў свеце".

Найпершай прапановай ёсць стварэнне ва ўрадзе краіны Камітэта па справах беларускай дыяспары. Ён разам з "Бацькаўшчынай", міністэрствамі культуры, адукацыі і замежных справаў і мусіць займацца ажыццяўленнем шматлікіх праектаў у такіх галінах, як арганізацыя ў замежных мясцінах, дзе кампактна пражываюць беларусы, гастроляў беларускіх мастацкіх калектываў; спрыянне рэстаўрацыі і захаванню беларускіх гістарычных і культурных помнікаў за межамі Беларусі; арганізацыя выстаў і канцэртаў творцаў з беларускай дыяспары; падтрымка пісьменнікаў беларускай дыяспары, выданне лепшых іх твораў; аказанне дапамогі існуючым у замежжы бібліятэкам беларускай кнігі ў папаўненні іх фондаў, арганізацыя новых пры дзеючых грамадскіх арганізацыях і культурных цэнтрах; дапамога грамадскім арганізацыям беларускай дыяспары ў адзначанні святаў Гуканне Вясны, Купалле, Дзяды, Каляды, Дня Волі — 25 сакавіка, Дня Незалежнасці; спрыянне пашырэнню ў замежжы (на этнічных беларускіх тэрыторыях — Смаленшчына, Браншчына, Віленшчына і інш.) — у Расіі, Літве, Латвіі і іншых краінах беларускамоўных школ і класаў, а там, дзе няма такіх школ, увядзенне ў школьныя праграмы беларускай мовы і літаратуры як прадмета; распрацоўка і прыняцце Закона Рэспублікі Беларусь "Аб беларускай дыяспары" і багата чаго іншага.

Сярод канкрэтных задач на перспектыву праграма называе спрыянне ў справе адкрыцця ў Вільні музея імя Івана Луцкевіча з вяртаннем яго экспанатаў; рэалізацыю пастановы Савета Міністраў ЛітССР ад 1960 года аб адкрыцці ў Павільнісе дома-музея Якуба Коласа; стварэнне ў Літве экспазіцыі пра жыццё і дзейнасць беларускай пісьменніцы Цёткі — жонкі тамтэйшага адраджэнца С. Каўрыса; вырашэнне пытання з урадамі Расіі і Украіны на асновах узаемнасці ўзвесці помнік Янку Купалу ў Маскве (у Мінску ўстаноўлены помнік А. Пушкіну) і М. Багдановічу ва Украіне (у Мінску плануецца ўзвесці помнік Т. Шаўчэнку); наданне Віленскай беларускай школе статуса гімназіі (як гэта было ў 1919—1944) — першай у замежжы; стварэнне беларускіх культурна-асветных цэнтраў у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Таліне, Рызе, Вільні, Беластоку, Кіеве, Астане, Празе, Тэль-Авіве, Таронта, Буэнас-Айрэсе.

На з'ездзе ў кіраўніцтве ЗБС "Бацькаўшчына" з'явіліся новыя асобы. Старшынёй рады арганізацыі замест эмігравраўшай летась у Чэхію Ганны Сурмач была абрана Алена Макоўская, прэзідэнтам пасля Радзіма Гарэцкага стаў доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч. Разам з тым на адкрыцці форуму прагучала мелодыя, якую было запрапанавана прызнаць за гімн Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Гэта была, як патлумачыў дэлегатам і гасцям з'езда Віктар Скорабагатаў, кампазіцыя, складзеная з твораў вядомага "Полацкага сшытка", датаванага сярэдзінай 17-га стагоддзя.

Праніклівая і густоўная музыка, беларускія прыгожыя і светлыя твары з усяго свету, трапяткія абдымкі і гаворкі ў кулуарах з тутэйшымі дзеячамі культуры і мастацтва, сцішаная туга па Радзіме — усё гэта стварала ў Доме літаратара канцэнтраваную беларускасць. Вось бы столькі яе на кожны квадратны метр беларускай зямлі з тых 207 тысячаў, якія мы маем!

**К. П.**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Кніжка пра цуд-шкло

У журналістыцы Мікола Хамянкоў 20 год. Зараз ён — рэдактар газеты "Гомельскі шклавар" адкрытага акцыянернага таварыства "Гомельшкло", Хамянкоў — выпускнік гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржуніверсітэта, з дзіцячых гадоў (а нарадзіўся ён на Лоеўшчыне) знітаваны з роднай мовай. Піша вершы для дзяцей, друкуецца ў часопісах "Вясёлка" і "Вожык", у перыядычным друку. Раней у выдавецтве "Юнацтва" выйшла першая ягоная кніжка для дзяцей "Вінавата люстэрка". Потым у кнігарнях з'явіўся зборнік "Елі віскас кацяняты". А зараз Гомельская фабрыка "Палесдрук" выпускае новую кніжку Хамянкова "Сказ пра цуд-шкло" пры фінансавай падтрымцы АТ "Гомельшкло". У кнізе — аповед пра унікальныя вытворчыя працэсы на гэтым прадпрыемстве. Увесь наклад "Сказа..." бясплатна перададзены ў абласное ўпраўленне адукацыі для школьных бібліятэк Гомельшчыны.

## Майстар лірычнай карціны

Гамяльчане добра ведаюць лірычныя карціны земляка Івана Цімафеева. Сярод іх — "Хлеб", "Касавіца", "Карагод", "Партызанскі край". Шмат увагі надае мастак пейзажу, напісаў некалькі палотнаў пра родны Сож. Зараз ягоныя лепшыя творы экспануюцца ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

## Дыпломы — жывапісцам

Некалькі год таму на базе Мінскай мастацкай вучэльні імя А. Глебава была створана гомельская філія. Зараз яна — самастойная мастацкая вучэльня. Тут рыхтуюцца кадры па трох спецыяльнасцях: жывапіс, дызайн, рэклама ў архітэктурна-прасторавым асяроддзі, скульптура. Днямі ў вучэльні прайшла абарона дыпломаў жывапісцаў. Як адзначае старшыня дзяржкамісіі, загадчык кафедры манументальнага мастацтва Уладзімір Зянкевіч, выпускнікі парадавалі творамі высокага прафесійнага ўзроўню. Усе яны атрымалі накіраванні на працу ў мастацкія школы раёнаў Гомельшчыны, у тым ліку і ў чарнобыльскую зону.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Аклад для Крыжа Еўфрасінні

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі, якая нядаўна адкрылася ў зале абласной арганізацыі Саюза мастакоў, займае праца эмальера і ювеліра Міколы Кузьміча. Гэта драўляны, аздоблены каштоўнымі металамі аклад, у якім будзе захоўвацца Крыж Еўфрасінні Полацкай, створаны майстрам замест страчанага арыгінала. Змешчана на выставе і фота самога Крыжа. Гэтыя экспанаты найперш і прываблівають наведвальнікаў. Праўда, пры гэтым шмат хто ставіць пытанне: ці адбудзецца калі-небудзь выстава самога Крыжа, зробленага Кузьмічом?

**Сымон АКСЕНІН**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Натхняюць рэпінскія мясціны

Паўсотні юных мастакоў з Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі з'ехаліся ў Віцебск на шосты міжнародны пленэр імя І. Рэпіна. Гасцей сустракалі Віцебская дзіцячая мастацкая школа № 1, музей-сядзіба Рэпіна ў Здраўнёве, музей Марка Шагала. Удзельнікі пленэру шмат малявалі. Хутка ў мастацкім музеі адкрыецца выніковая выстава іхніх работ.

## Чарговыя шагалаўскія чытанні

Адзінаццатыя міжнародныя шагалаўскія чытанні прайшлі ў Віцебску па традыцыйным сцэнары. У праграме — адкрыццё выставы "Марк Шагал. Графіка 1960—1970 гадоў", сустрэча з перакладчыцай кніг Бэлы Шагал "Палаючыя агні" і Марка Шагала "Маё жыццё" — Наталляй Маўлевіч (Масква), свята на Пакроўскай вуліцы, куды збіраюцца на паклон вялікаму мастаку прыхільнікі ягонага мастацтва.

**Святлана ГУК**

## Паэт прыехаў у Полацк

Полацк наведаў паэт Сяргей Панізнік. У музеі беларускага кнігадрукавання адбылася сустрэча з палачанамі. Паэт расказаў прысутным пра гісторыю выдання зборніка гістарычнае літаратуры "Бацькаўшчына", укладальнікам якога ён з'яўляецца, і прэзентаваў удзельнікам сустрэчы апошнюю кнігу гэтай серыі. Панізнік таксама прачытаў свае вершы і абвясціў, што збірае матэрыял на новую кнігу "Бацькаўшчыны" пад назвай "Плешча ў сэрцах Дзвіна",

**Т. ХМАРКА**

*МІНШЧЫНА...*

## У гасцях — Лідскі тэатр

Нядаўна ў Дзяржынску пабываў Лідскі народны драматычны тэатр. Яго кіраўніком больш за дваццаць год працуе Валеры Меляховіч. Калектыў пастаянна выступае ў самых розных гарадах Беларусі і Расіі, удзельнічае ў міжнародных конкурсах. На гэты раз артысты парадавалі юных дзяржынцаў казкай "Салдат і змяя". У рэпертуары Лідскага тэатра таксама камедыі, казкі для дарослых.

## Фаніпаль святкуе дзень народзінаў

У Фаніпалі адбылося свята з нагоды яго 145-годдзя. Ва ўсіх кутках гэтага самага маладога на Беларусі горада (у 1999 годзе гарпасёлку быў нададзены гарадскі статус) праходзілі масавыя мерапрыемствы: выставы, канцэрты самадзейных калектываў з Фаніпаля, Дзяржынска, Мінска, сельскіх Дамоў культуры. На ўрачыстым мітынгу выступілі старшыня Дзяржынскага райвыканкама Уладзімір Ткачоў, старшыня Фаніпальскага гарвыканкама Віктар Карпіевіч.

**Тамара ШАЎЧЭНКА**

## Спаборнічаюць народныя майстры

Напрыканцы чэрвеня ў Валожыне абласное ўпраўленне культуры і абласны Цэнтр народнай творчасці правялі свята-конкурс народных майстроў саломапляцення. Конкурс, які праходзіў у рамках Свята горада, называўся "Саламяныя дзівосы". У ім бралі ўдзел 67 майстроў з 18 рэгіёнаў Міншчыны.

А на святкаванне 500-годдзя горада Беразіно сабраліся самыя лепшыя ў вобласці разьбяры па дрэве. Свята "Разьбы зачараванне" прайшло цікава і насычана. Сваё майстэрства, парадаваўшы гледачоў, паказалі дваццаць народных умельцаў.

Лета доўжыцца, святы — працягваюцца...

**Наш кар.**

**УДАКЛАДНЕННЕ**

*У мінулым нумары "ЛіМа" ў гутарцы Алеся Мяснікова з Яўгенам Лецкам "Будзе ў Маскве помнік Купалу" па тэхнічных прычынах цяперашняя пасада Анатоля Бутэвіча названа пасадай старшыні Таварыства дружбы. Гэта не адпавядае сапраўднасці. Просім прабачэння.*

## "ЛіМ" у гасцях у румынскага "Лучафэрула"

**Спраўдзілася. Так хочацца сказаць пра рэалізацыю аднаго праекта, задуманага яшчэ падчас маёй працы Паслом Беларусі ў Румыніі: выйшаў спецыяльны нумар румынскага літаратурнага штотыднёвіка "Лучафэрул", прысвечаны беларускай літаратуры.**

**Сярод розных пасольскіх клопатаў, і найперш работы па пашырэнні гандлёва-эканамічных адносін паміж нашымі краінамі, мы надавалі значную ўвагу развіццю культурных кантактаў, імкнуліся наладзіць сувязі паміж беларускімі і румынскімі пісьменнікамі, аднавіць страчаныя набыткі ў галіне ўзаемаперакладаў.**

**Сёе-тое нам удалося. Магу згадаць без перабольшання трыумфальны прыезд у Бухарэст пінскага школьніка Сашы Чаркаса, які не толькі пераканаўча перамог на міжнародным конкурсе выканаўцаў "Маленькі прынц" і атрымаў галоўны прыз з рук прэзідэнта Румыніі, але і пакарыў сваім голасам дыпламатычны корпус Бухарэста, пра што ўжо шмат пазней нам не раз з удзячнасцю нагадвалі прадстаўнікі пасольстваў розных краін. Можна нагадаць прыезд у Румынію нашага Купалаўскага тэатра і яго ўдалы ўдзел у міжнародным конкурсе ў г. Сібіу. Можна спаслацца на ўдзел таксама ў міжнароднай акцыі нашых кампазітараў, успомніць пра фестываль беларускіх фільмаў у Бухарэсце і кінапаказ ваеннай тэматыкі.**

**На новым узроўні ўдалося запачаткаваць літаратурныя кантакты. Можна смела сцвярджаць, што ў Бухарэсце мы займелі сапраўднага сябра беларускіх пісьменнікаў у асобе выдатнай паэтэсы, празаіка, дзіцячай пісьменніцы, перакладчыцы Пасіянарыі Стайчэску. Гэта ў яе перакладах у перыядычных выданнях былі надрукаваны вершы Сяргея Законнікава, проза Генрыха Далідовіча. Да перакладу твораў Васіля Быкава, Святланы Алексіевіч, Алеся Петрашкевіча, Вольгі Іпатавай спрычыніўся і яшчэ адзін прыхільнік беларускага слова — Тыберыус Пую.**

**Зыходзячы з набытага вопыту, вырашылі пайсці далей. Падчас сустрэчы з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў Румыніі мы дамовіліся аб абмене пісьменніцкімі дэлегацыямі і падпісанні пагаднення аб супрацоўніцтве, аб актывізацыі перакладаў, абменных нумарах літаратурных выданняў. На жаль, не ўдалося сабраць пісьменніцкую дэлегацыю, а справа перакладаў пачала рухацца больш інтэнсіўна. Калі мы сустракаліся з галоўным рэдактарам літаратурнага штотыднёвіка "Лучафэрул" Марыусам Тупанам, ён згадзіўся з прапановай падрыхтаваць абменныя нумары з газетай "Літаратура і мастацтва". Ідэю падтрымалі лімаўцы Алесь Пісьмянкоў і Віктар Шніп, падабралі творы паэзіі і прозы з тых, што друкаваліся на старонках "ЛіМа".**

**Пасіянарыя Стайчэску згадзілася ўзяць на сябе ўвесь перакладчыцкі цяжар. Умова з яе боку была выстаўлена для нас выгадная — перакладаць толькі з арыгінала. Да гэтай справы яна далучыла нашу зямлячку, былую выдавецкую работніцу Ларысу Маня, выкладчыкаў кафедры славістыкі Бухарэсцкага універсітэта Андрэя Іванова, Андрэу Берча, Алну Драгушын, Ліліяну Бурды.**

**І вось з Бухарэста прыйшла прыемная навіна — апошні майскі нумар "Лучафэрула" амаль цалкам прысвечаны беларускай літаратуры. У ім змешчаны каля 40 твораў 17 аўтараў. У сваім уступным артыкуле галоўны рэдактар Марыус Тупан адзначае плённасць такіх кантактаў і станоўчую ролю ў іх рэалізацыі беларускага пасольства. У нумары змешчаны крытычны артыкул з аглядам стану беларускай літаратуры. Пра кожнага аўтара перакладчыкі падрыхтавалі кароткую біябібліяграфічную даведку. Увесь нумар праілюстраваны рэпрадукцыямі карцін знанага нашага майстра Міколы Селешчука.**

**Сярод паэтычных твораў змешчаны вершы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава, Алеся Пісьмянкова, Віктара Шніпа, Анатоля Вярцінскага, Навума Гальпяровіча, Уладзіміра Марука, Зінаіды Дудзюк, Міколы Мятліцкага, Галіны Булыкі.**

**Годна прадстаўлена і проза. У нумары змешчаны вялікі ўрывак з "Вешчуна Гедзіміна" Вольгі Іпатавай, апавяданне "Пятро з Дабрыні" Генрыха Далідовіча. Прадстаўлены таксама творы Галіны Багданавай, Васіля Гігевіча, Леаніда Калодзежнага.**

**Пачатак зроблены. Зараз справа за прадаўжальнікамі. І найперш — падрыхтоўка нумара "ЛіМа", прысвечанага румынскай літаратуры. А там, дасць Бог, і іншыя праекты ўдасца рэалізаваць.**

**Анатоль БУТЭВІЧ**

СУСТРЭЧЫ

# Бядой запаленае слова



У красавіку споўнілася 15 гадоў з дня катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. З гэтай нагоды ў нашай краіне было праведзена шмат мерапрыемстваў, якія напомнілі ўсяму свету пра чарнобыльскую бяду, якую перажыў беларускі народ.

Каля 600 тысяч школьнікаў Беларусі жывуць сёння ў месцах, якія ў той ці іншай ступені патручаны вынікамі чарнобыльскай катастрофы. Для такіх дзяцей дзяржава стварыла рэабілітацыйныя цэнтры, куды яны перыядычна выязджаюць, каб вучыцца, адпачываць, папраўляць здароўе. Нядаўна Дзяржаўны камітэт па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, Саюз беларускіх пісьменнікаў і штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" правялі сумесную акцыю пад назвай "Бядой запаленае слова", якая была накіравана ў першую чаргу на творчыя сустрэчы дзяцей, што знаходзяцца ў рэабілітацыйных цэнтрах, з паэтамі, кампазітарамі і спевакамі.

Першая сустрэча з лімаўцамі адбылася ў рэабілітацыйным цэнтры, што ў Ждановічах. Вёў яе галоўны рэдактар штотыднёвіка, паэт Алесь Пісьмянкоў. Цёпла прымалі школьнікі супрацоўнікаў "ЛіМа", паэтаў Віктара Шніпа, Навума Гальпяровіча, Паўла Вераб'ёва, Паўла Саковіча, кампазітара Уладзіміра Будніка, які выканаў уласныя песні на вершы беларускіх аўтараў.






Ініцыятарам і актыўным удзельнікам гэтых сустрэч стаў супрацоўнік камітэта Валеры Протчанка.

Госці падарылі для цэнтра бібліятэчку з кніг вядомых пісьменнікаў.

Такога ж плана адбыліся сустрэчы з лімаўцамі і ў рэабілітацыйных цэнтрах "Лясная паляна" (Смаргонскі раён), "Світанак" (Пінскі раён), "Пціч" (Петрыкаўскі раён), "Пралеска" (Жлобінскі раён) і "Сідзельнікі" (Мазырскі раён), і ўсюды, дзе выступалі лімаўцы, паміж імі, дзецьмі і супрацоўнікамі рэабілітацыйных цэнтраў наладзіліся цёплыя сяброўскія стасункі, якія, трэба спадзявацца, з цягам часу будуць мацнець. Лімаўцы гатовыя і надалей наведваць рэабілітацыйныя цэнтры з мэтай знаёмства дзяцей не толькі са сваёй творчасцю, а і з лепшымі творамі беларускай літаратуры і эстрады.

**Н.К.**

*На здымках: так жывуць і адпачываюць дзеці ў рэабілітацыйных цэнтрах.*

ВЫСТАВЫ

# Нешараговае мерапрыемства

***Для Віцебска "Арт-сесія" — мерапрыемства выбітнае. Адбылося яно ў канцы вясны. Але звярнуцца да яго захацелася, яшчэ раз падсумоўваючы вынікі абароны сёлетніх дыпломных работ, пра якія гаворка пойдзе ў бліжэйшых нумарах "ЛіМа".***

***На адкрыццё выставы студэнцкіх работ у фае культурна-дзелавога цэнтра ААТ " КІМ" (Віцебск) прыйшло так многа моладзі, што незвычайна нават для самых прэзентацыйных мерапрыемстваў у сталіцы. Прыемна здзівіла не толькі поўная зала, але і раскаваная, бурная рэакцыя на абвяшчэнне кожнага пераможцы з боку "камандаў падтрымкі" розных навучальных устаноў. Такая надзвычайная цікавасць да кароткай, не больш тыдня, выставы "Арт-сесія" для віцябчанаў з'ява натуральная. Жыхары горада апошнім дзесяцігоддзем прывучаны да нечаканасцей самых розных фестываляў і конкурсаў. І гэта зусім не датычыць "Славянскага базару". Акрамя яго, Віцебску запомніліся і пленэры М.Шагала, К.Малевіча, пагалоскі ад дзейнасці галерэі Сашы Пушкіна, сёння ідзе гаворка аб адкрыцці Цэнтра сучаснага мастацтва ў доме, дзе працаваў знакаміты УНОВІС, штогод адбываецца "Белая амфара", адзін з найбольш прэстыжных для Беларусі конкурсаў моды сярод прамыславікоў і мадэльераў, "рамантычны" конкурс менестрэляў... і — "Арт-сесія", якая сёлета адзначыла свой юбілей-дзесяцігоддзе. Дарэчы, многія са згаданых мерапрыемстваў, як "Белую амфару", "Арт-сесію", конкурс менестрэляў прыдумала і галоўнае арганізавала, знайшоўшы і падтрымку ўладаў, і грашовыя сродкі, Марына Раманоўская. Гэта яе мастацтвазнаўца і вялікі прыхільнік Віцебска М.Паграноўскі назваў галоўным культурным рухавіком горада.***

На жаль, давялося мне трапіць за гэта дзесяцігоддзе на "Арт-сесію" ўпершыню. І таму не магу аб'ектыўна сведчыць, зрабілася яна лепшай за гэтыя гады ці не. Дзесятак год таму Віцебск актыўна запрашаў мінскіх журналістаў, ганарліва дэманструючы ім свае шматлікія культурныя падзеі і нават прэтэндуючы на моцны культурны цэнтр рэспублікі. Апошнімі гадамі горад не сцішвае тэмпаў, а пра гэта сведчыць колькасць конкурсаў і фестываляў. Але віцебскія арганізатары не гоняцца за рэкламаю, мінчанаў запрашаюць больш як спецыялістаў у журы. Гэта — сведчанне ўпэўненасці Віцебска ў значнасці свайго культурнага статуса, які не патрабуе далейшага зацверджання ў сталіцы. Але ж Мінск, на жаль, пры гэтым не атрымлівае дастатковай інфармацыі пра шматлікія падзеі, якія адыгрываюць значную ролю для віцябчанаў.

"Арт-сесія" за дзесяць год, натуральна, набыла вядомасць у Беларусі, "раскруцілася", калі карыстацца сучаснай тэрміналогіяй. Аналагаў такога конкурсу мы не маем. Тым больш, ніякай заангажаванасці ў адборы студэнцкіх прац не назіраецца. У конкурсе ўдзельнічаюць студэнты мастацкіх ВНУ (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларускі універсітэт культуры, Віцебскі тэхналагічны інстытут, мастацкае аддзяленне Віцебскага педуніверсітэта) і Мінская мастацкая вучэльня. Маладыя мастакі, якія скончылі навучанне, да конкурсу не дапускаюцца. Нездарма пры прыёме прац арганізатары патрабуюць студэнцкае пасведчанне. Збірае па іншых гарадах, а потым вяртае працы сама дырэкцыя конкурсу. Натуральна з прычыны блізкасці віцебскіх інстытутаў пераважае колькасць прац тамтэйшых студэнтаў. Хаця гэта зусім не азначае, што ў ліку пераможцаў іх бывае большасць.

У папярэднім адборы для ўдзелу ў конкурсе ніякіх абмежаванняў не існуе. Крытэрыем можа быць толькі прафесійнае стаўленне да работы. Тым больш раздзелаў, па якіх можа ацэньвацца студэнцкая праца, досыць на ўсіх: жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, авангарднае мастацтва, візуальны дызайн, і новы — web site, дзе да ўдзелу прымаюцца "асабістыя старонкі" у Інтэрнэце, незапатрабаваныя аўтарскія работы і распрацоўкі. Сёлета, на жаль, апошні раздзел не разыгрываўся, не было прэтэндэнтаў. Ну а журы выпадае самае складанае: аднесці розныя працы да прапануемых катэгорый. І не заўжды тут лёгка адрозніць жывапіс ці дэкаратыўную працу ад авангарда ці візуальнага дызайну. Межы гэтых паняццяў досыць размытыя і трактуюцца часам самімі мастакамі неканкрэтна, а залежна ад асабістых сімпатый і ўласнага разумення.

Але, зрэшты, гэта не галоўнае, ці сапраўды студэнцкі твор упісваецца ў межы авангарда, ці застаецца больш традыцыйным жывапісам. Галоўнае, што ацэньваецца ў конкурсе, — навізна, творчыя пошукі, нескаванае мысленне, якое, аднак, мае пад сабою прафесійную базу. Нездарма у журы працавалі не толькі прафесійныя мастакі і педагогі (напрыклад, А.Ксяндзоў, выкладчык БДАМ, ці Л.Гоманаў, выкладчык Мінскай мастацкай вучэльні), але і мастацтвазнаўца М.Паграноўскі, старшыня Саюза дызайнераў Д.Сурскі.

Першасны сэнс выставы-конкурсу зводзіцца да падтрымкі творчай дзейнасці студэнтаў. Ёсць грашовыя прэміі, іх дзесяць па трыццаць тысяч рублёў кожная. Сума невялікая, гэта больш сімвалічная ўзнагарода, але ад гэтага не менш каштоўная. Тым больш менавіта ў гэтым конкурсе будучыя мастакі маюць магчымасць паказаць самыя неверагодныя свае праекты без жорсткай цэнзуры. Тое, што студэнцтва мае і энергію для вялікіх палотнаў, і досыць нечаканыя ідэі, не выклікае сумневу. Часам для творчага палёту не хапае ведаў, але гэта кампенсуецца нешараговымі канцэптуальнымі рашэннямі. І далібог, каб не быць другасным у "сучасным" мастацтве, неабходна ведаць, што ствараецца вакол цябе. Большасць маладых мастакоў не мае магчымасці наведаць музеі і галерэі замежжа, каб даведацца, упэўніцца ці расчаравацца ў сваіх пошуках, а да апошняга часу яны не маглі нават пагартаць дастатковую колькасць прафесійных часопісаў. І магчымасць збоку паглядзець на сябе ў атачэнні іншых, прагных да пошукаў і прыхільных да канцэптуальных праектаў у жывапісе, графіцы і г.д. можа мець для пачынаючага творчы шлях мастака вялікае значэнне.

Сёлета, як і ў мінулых гадах, пераможцаў было дзесяць. Усе з розных мастацкіх устаноў. З рознымі ідэямі. Ад выдатнага прафесійнага колеравага рашэння ў жывапісе да падвешанай да столі гітары, абклеенай пап-корнам. Ад павуцінкі-пано з дроцікаў ад корка шампанскага да чорна-белых фантазій на велічэзных лістах паперы, імітацыі насценнага жывапісу з рухомымі фігурамі. Многа было і не зусім вартага, многа другаснага і проста вучнёўскага, было нешта зусім непрымальнае. Няроўнасць экспазіцыі толькі падкрэслівала знаходкі адзінак. Але знайсці ў мастацтве сапраўднае зерне і дапамагчы яму вырасці, гэта задача вартая, і яе вырашэнне дапаможа "Арт-сесіі" заўжды заставацца актуальнай сярод маладых мастакоў.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# "Дзень паэзіі"

Ніна ЗАХАРЭВІЧ

## Пра маю старану

### Голас Радзімы

*Голас Радзімы...*
*Крык жураўліны*
*Цягне, як нітку, касяк.*
*Пакліч журботны*
*Птушак балотных*
*Нам не забыць аніяк.*

*Голас Радзімы*
*Горкі ад дыму*
*Спаленых вёсак і сёл,*
*Плач-галашэнне,*
*Нас на маленне*
*Кліча царква і касцёл.*

*Голас Радзімы*
*Ў песнях любімых*
*Даўніх, мінулых гадоў,*
*Вёсен гуканне,*
*Мілых прызнанні*
*І памінанне дзядоў.*

*Голас Радзімы,*
*Дзе б ні былі мы,*
*Чуецца часта і ў сне,*
*І ва ўспамінах —*
*Хто што пакінуў*
*Там, у далёкай вясне...*

### Раскажыце навіны

*Клопат дзённы пакіну*
*На хвілінку адну.*
*Раскажыце навіны*
*Пра маю старану.*

*Там мяне ўспамінаюць*
*Ці забылі навек?*
*Як жыву, ці спытае*
*Хоць адзін чалавек?*

*Ці кукуе зязюля*
*У здзічэлым садку?*
*Як гады закранулі*
*Балацянку-раку?*

*А ці ведаюць людзі,*
*Што люблю родны край?*
*Сэрца вечна там будзе,*
*Як яго ні трымай.*

*Палячу, як на крылах,*
*На ўспамінах туды,*
*Да цябе, край мой мілы,*
*Дзе юнацтва гады.*

*Упаду на калені*
*Ля былога сяла*
*І пагладжу камені,*
*Дзе хаціна была.*

*Пакланюся магілам*
*Пад павеццю бяроз...*
*Не трымаюць больш крылы,*
*Намакаюць ад слёз.*

*Паўтарыце навіны*
*Пра маю старану!*
*Клопат дзённы пакіну*
*На хвілінку адну...*

г. Паставы



Фота Я. ПЯСЕЦКАГА

Анатоль ДЭБІШ

## Бязмежжа Айчыны

•

*Што я не варона, даказваць не стану:*
*Каму і навошта, і з мэтай якой?*
*Зраблюся варонай, хаўтурнаю паннай,*
*І ў лес палячу — што ж,*
*прытулак там мой.*

*Што зверам зрабіўся?..*
*Аспрэчваць не буду.*
*Што хочаш цяпер пра мяне гавары.*
*Памру ці ўваскрэсну — дарую, забуду...*
*Мне помсціць за што, калі ўсе мы звяры?*

*Жадаюць быць Богам усе, а Іуду*
*Не бачаць, хоць ён — ува ўсіх і заўжды.*
*Іудаю быць загадаецe — буду...*
*Каб вы зразумелі, з якой мы брыды.*

•

*Над целам маім крумкачыная зграя*
*Хаўтурныя гнёзды штохвілю віе*
*І крыкам на часткі душу разрывае,*
*Гарачую кроў маю зіркамі п'е.*

*Іх больш, усё больш,*
*гэтых гнёзд крумкачыных,*
*Здаецца, хвіліна — і знікну зусім...*
*Ды большаю я да бязмежжа Айчыны,*
*І духам, і целам мацнею сваім.*

### Бубен

*З трыбуны ён бубніць на цэлы свет,*
*бы бубен,*
*Нат чуе па-за светам папуас:*
*— Усё, што я раблю і чым жыву — для вас,*
*Паверце сёння мне, і заўтра лепей будзе!..*
*І гэтак — з дня на дзень,*
*як кулаком у плечы,*
*Ды музыкі няма — толькі адна пустэча.*

### Перад урачыстасцю

*Шчэ сонца не ўзышло —*
*карпее ў працы люд:*
*Фарбуе сцены, плот, што пазірае крыва...*
*Вядомыя чыны праедуць сёння тут...*
*Пад промнямі зіхціцца шкло гулліва*
*На доме, за якім — валежнік,*
*быльнік, бруд.*

•

В. Г.

*Так проста ўсё: пакінуў свет,*
*Такі падманлівы і мілы.*
*Як тонкі пласт пяску і пылу*
*Між небыцця пралёг твой след.*

*Што ты ў жыцці шукаў, паэт?*
*Знайшоў? Знёс назаўжды ў магілу?*
*Так проста ўсё: пакінуў свет,*
*І толькі пласт пяску і пылу.*

### Чаканне зімы

*Вецер у вокны грукоча маркотна.*
*Дзень прамінуў і сышоў беззваротна.*
*Восень і дождж у двары.*

*Ліст ападае апошні пад ногі,*
*Месяц у лужыне каля дарогі —*
*Нібы парсюк, дагары.*

*Хутка зіма. Снежны пух зацярушыць*
*Луг і падворак, і нашыя душы.*
*Месяц у стылай вадзе.*

*Крочу па першым сняжку на спатканне...*
*Вось і сусед, дачакаўшыся рання,*
*Кныра пад грушу вядзе.*

### Шлях

*Мой шлях вядзе мяне дахаты:*
*Праз боль, ману, праз гвалт і страты,*
*Праз церні, забалацце, хлуд,*
*Праз сотні, тысячы пакут,*
*Праз здраду — жонцы і сябрам,*
*Праз сто, праз дзвесце, трыста грам,*
*Праз акіяны і пяскі,*
*Праз хвілі, дні, гады, вякі,*
*Праз матчын дом, дзе цвіў наш бэз,*
*Праз развітання паланез,*
*Купалы слова, песні Цёткі...*
*О, як жа гэты шлях кароткі!*

### Пошук радзімы

*Вулкамі начнога Берасця крочу я*
*ад берага Мухаўца на бераг Лясной,*
*ад паганскага стода Перуна*
*да помніка Ільічу,*
*ад крэсаў паўночных*
*да крэсаў паўднёвых,*
*і супыняюся на хвілю*
*ля помніка А. Міцкевічу*
*з надпісам:*
*"Ён тут не жыве!"*
*Я тут не жыву таксама.*

Анатоль ЗЭКАЎ

### Рэквіем па лістоце

*Жыве лістота толькі год,*
*адзіны год — і той няпоўны.*

*Вунь выпраўляецца ў палёт*
*лісток часінай вечаровай.*
*Закружыць голаў лістапад*
*і адарве ад пупавіны.*
*Лісток не вернецца назад*
*да роднай матчынай галіны.*
*Які шчымлівы той палёт,*
*калі за ім — ужо нічога.*

*Жыве лістота толькі год,*
*і для яе той год — эпоха.*

### Памяці дзеда

*Быў конюхам мой дзед,*
*таму, відаць, і сёння,*
*калі я бачу коней —*
*не ўседзець мне нідзе!*
*Каня каля сяла*
*лаўлю сабе такога,*
*каб ціхая дарога*
*ляцела, як страла.*
*За мною не ўсачыць —*
*ад хуткасці шалею!*
*Не кожны разумее,*
*адкуль я,*
*хто*
*і чый.*
*Заўважыць ледзь сусед,*
*які дзядулю ведаў,*
*што я — увесь у дзеда,*
*такі ж казак, як дзед.*
*Цяплее на душы*
*ад пахвалы суседа.*
*Пачуць бы гэта дзеду...*
*Ды толькі не дажыў.*

### Мне прысніўся сон

*Прысніўся сон: з вайны вярнуўся*
*загінуўшы пад Прагай дзед.*
*Сядзіць пад небам Беларусі*
*і ладзіць мой веласіпед.*
*Не сніўся мне ні бой страшэнны,*
*ні бег салдат скрозь чорны дым.*
*Нібы на здымку даваенным,*
*я ўбачыў дзеда маладым.*

*Шкада, што сон такі кароткі.*
*Канец ёсць, пэўна, усяму.*
*Мы сёння з дзедам аднагодкі —*
*Старэць далей мне аднаму.*

### Турэцкі раман

*Стамбул.*
*Атэль "Сантраль".*
*Нас у пакоі — двое.*
*Усё наўкол — чужое.*
*Чужыя й мы амаль.*

*І толькі твой пагляд,*
*які крыху гарэзіць,*
*і хмеліць, і цвярэзіць,*
*і абяцае шмат...*

*Той наш раман, на жаль,*
*не зможа паўтарыцца.*
*Хіба што ў сне прысніцца*
*Стамбул,*
*атэль "Сантраль"...*

Уладзімір МІЦКЕВІЧ

### Пушчанская адысея

*Сонца твае ў зеніце*
*Свеціць так ярка, ўрачыста.*
*Сонца маё на заходзе*
*Скрылася ў пушчы вячыстай.*
*Там я блукаю, гукаю,*
*Следу твайго я шукаю.*
*Рэха ж мне толькі азвецца,*
*Ці лесавік засмяецца —*
*Усе намаганні дарма:*
*Голас твой чую, здаецца, —*
*Голасу ж сэрца няма.*

### Прыгажуня

*Вочы твае — зараніца,*
*Вусны твае — медуніца,*
*Рукі, як снег той, бялюткі,*
*Стан па-дзявочаму гнуткі,*
*Шыю абвілі каралі,*
*Шчасце маё яны ўкралі.*
*Чыстая ты, як крыніца,*
*Нельга табой надзівіцца.*

•

*Пара рамантыкі прайшла —*
*Ужо і сталасць на парозе:*
*Палову шчасця ты знайшла,*
*Ну а другая — у дарозе.*

г. Мінск

Ігар ПРАКАПОВІЧ

# “Так нельга жыць...”

•

*Сярод людзей*
*ты мкнешся да сябе*
*У свой сусвет,*
*дзе ёсць, напэўна, я.*
*Палае вогнішча,*
*і ў небе бляск планет*
*Так абвастрае*
*прыгажосць жыцця.*

*Так узвышае*
*чысціню душы*
*Самотны позірк*
*у начны эфір.*
*...Сярод людзей*
*стаіш ты на мяжы*
*Начнога вогнішча*
*і чорных дзір...*

•

*Новы дзень пачынаецца веяй,*
*Б'ецца снег у акно, як шалёны,*
*А на шкле ў крыштальных лілеях*
*Гарады, вітражы ды калоны.*

*Відарыс незнаёмай краіны.*
*Ледзяныя халодныя мроі.*
*У людзей заміж сэрцаў — ільдзіны,*
*Там чужыя, не нашы героі.*

*Войскі холаду зноў у паходзе.*
*Завіруха шаленствуе ў пене.*
*Вымаражваецца у народзе*
*сумленне...*

•

*Холадна зорцы падаць у снег.*
*Горача космасу грэцца на сонцы.*
*Цяжка з хады пераходзіць на бег*
*І усміхацца так, як японцы.*

*Але ўсё гэта — толькі імгненні,*
*І непатрэбныя, мусіць, для нас.*
*Мы па Айчыне ідзём, быццам цені,*
*У невядома каторы час...*

## Маўчанне

*Маўчанне перуна*
*ў подыху навальніцы,*
*Маўчанне валуна*
*ў выспяваючым жыцце*
*Вулканаў маўчанне*
*перад узрывам,*
*Маўчанне ракі*
*перад абрывам,*
*Песні маўчанне*
*перад застоллем,*
*Маўчанне паэта*
*ў канцы няволі,*
*Маўчанне травы,*
*схаванай садам,*
*Маўчанне Хрыста*
*перад Пілатам.*

## Шыкавічы

*Мяняецца вёска...*
*Паціху, патроху*
*Сыходзяць на могілкі родныя людзі.*
*Іх чыстыя душы вяртаюцца Богу —*
*Яны нас і там, па-за межамі, любяць.*

*Вясковыя хаты стаяць успамінам*
*Пра свята дзяцінства ў сонечных летах.*
*На выгане пахне гаркавым палынам,*
*Плыве над Баторынам восеньскі ветах.*

*Паболела дач. Зноў і зноў іншамаркі*
*Вязуць са сталіцы людзей нетутэйшых.*
*Сучасныя гмахі будуюцца шпарка*
*Паводле праектаў і планаў навейшых.*

*А словы і назвы мясцовых ваколіц*
*Таксама да могілак сходзяцца ціха,*
*Бо мова чужая душы не натоліць,*
*А родная тае апошнюю крыгай.*

*Пабачыш знаёмыя хаты і тоні,*
*Успомніцца дзедава, бабіна слова,*
*Нібыта са мной яны зноўку гамоняць*
*Найлепшаю нашаю роднаю мовай.*

*І сціснецца сэрца, бо ўсё — незваротна.*
*Заўважна і хутка мяняецца вёска.*
*...Восеньскі вечар. Ветах. Вільготна.*
*Чуецца з возера вёсельны плёскат.*

•

*Каторы раз*
*мы пойдзем па мяжы*
*Начнога космасу*
*і вечнага святла.*
*Захочам зноў*
*не існаваць, а жыць*
*У полымі*
*сардэчнага цяпла.*

*Вузлы умоўнасцяў*
*і быту кайданы*
*Звіняць па вуліцах*
*у грукаце машын.*
*Кухонныя*
*збяднелыя сталы*
*У хатах быццам*
*сумны напамін.*

*“Так нельга жыць...” —*
*вурчыць аблезлы кот,*
*Няма мышэй,*
*бо ім няма пракорму.*
*А гаспадыня*
*на галодны год*
*Ашчадна сухары*
*збірае ў торбу.*

*“Так нельга жыць...” —*
*гавораць мужыкі,*
*Гартаючы*
*грашовыя паперкі:*
*Хапае на батон*
*з сівой мукі*
*І не хапае*
*дзецям на цукеркі.*

*“Так нельга жыць”, —*
*шапоча цішыня.*
*Жыццё зрабілася*
*не радасцю, а мукай.*
*З трывогай сочыш*
*нараджэнне дня,*
*Цяжарнага*
*падманам і прынукай.*

*Дык, можа, ўсё ж*
*мы пойдзем па мяжы*
*Начное цемры*
*і святла жывога,*
*Захочам зноў*
*не існаваць, а жыць.*
*І тут, і сёння...*
*Толькі дзе дарога?*

•

*Хай нам вечар раскажа,*
*што раніцай будзе*
*на гэтай зямлі.*

*І што стане з дарогай,*
*якую мы сёння*
*упарта прайшлі.*

*І што будзе з травою,*
*што сталася ложкам*
*для стомленых целаў.*

*І што стане з душою,*
*што ў ноч паляціць*
*да нябёсаў...*

г. Паставы

Святлана КАРОБКІНА

•

Светлай памяці мамы
Надзеі Іванаўны

*Наляцеў ураган, як груган,*
*І пакінуў мяне ў адзіноце*
*Ён матульку маю забраў,*
*Я — на самай высокай самоце!*
*Я — у роспачы. Згас Агмень,*
*Што ад мамы ішоў у сэрца.*
*Гляну ў сад наш, — Анёл-светлацень*
*Ля зламанае грушы ўецца.*
*Мама ў сны прыходзіць мае —*
*Як калісьці, у зрэбнай світцы.*
*Мне клубкі трывог аддае,*
*А сабе забірае — спіцы.*
*Сядзе, вяжа нешта яна.*
*Як мне быць, параненай птушцы?*
*Адчуваю: між нас — сцяна...*
*Мама, цяжка тваёй дачушцы!*

•

*Агонь гарэў і быццам не пагас.*
*Успамінаю восень, клёны, Вас*
*Гарэлі клёны залатым агнём, —*
*Чырвоныя былі, як цуда, днём.*
*Ноч надышла і раніца зімы...*
*Не ведаю, чаму ў расстанні мы.*
*Не веру я, што не прачнецца клён.*
*Як і бяроза, повен соку ён.*
*А покуль вось Вам — з лёду мой*
*збанок.*

*У збане палюбоўны бродзіць сок*
*З тых ягад перамерзлых арабін,*
*Натрос што ненароджаны наш сын,*
*Што донечка, сястра яго, стаўкла,*
*Калі расінкай кволаю была.*

•

*Завеі сціхлі, дружа мой,*
*Наперадзе — вясна,*
*А мы у роспачы з табой,*
*Душу гняце віна.*
*Чаму, чаму мы не змаглі*
*Сям'ю сваю стварыць*
*І патапілі караблі,*
*Каб Адзінотай жыць?*
*Цяпер цяжар нам незямны*
*Душу ўвесь час гняце,*
*Боль не знікае зацяжны:*
*Дзе ж шчасце наша, дзе?..*

•

*Вы помніце многіх жанчын, —*
*Мяне сярод іх не было.*
*Лістоту гаркавых асін*
*Прадзім'е на дол мяло.*
*Гарэлі яны дацямна, —*
*Шкада было аблятаць.*
*А побач цвіла мана, —*
*Сцяжыны ажно не відаць.*
*А вокал гуляў туман,*
*Такі непралазны, густы,*
*А Вы пісалі раман*
*Пра лёс жанчыны круты.*

•

*Снег падаў на чыстае поле,*
*І поле рабілася белым.*
*Жабрачкай рабілася доля,*
*А позірк — самотна-нясмелым.*
*Гукала кагосьці сняжынка*
*Так звонка, так чыста і спеўна.*
*А ў торбе ляжала скарынка —*
*Лёс ёй папярхнуўся, напэўна.*
*Было так самотна і страшна —*
*Адна сярод ночы, у полі...*
*Адна я рашуча, адважна*
*Глытаю пуды сваёй солі.*

•

*Няма Вас, але я — іду,*
*І застаюцца ў целе стрэмкі.*
*Няўжо, няўжо Вас не знайду,*
*Мой адзінокі, мой старэнькі?*
*Шукаю Вас даўным-даўно.*
*Мы заблудзіліся ў дарозе.*
*Не скісла нашае віно,*
*Адно — душа мая ў трывозе.*
*Вы недалёка дзесь, відаць,*
*Я адчуваю гэта сэрцам,*
*Бо не стамілася чакаць —*
*Жыве Надзея, застаецца...*



*Максім Танк і Ніл Гілевіч на літаратурным свяце ў Мікалаеўшчыне, ліпень 1978 г.*
*Фота Я. КАЗЮЛІ*

Зміцрок МАРОЗАЎ

# Прытулак боскай чысціні

•

*Не хапае людзям то свабоды, то хлеба.*
*Як сляпыя, кудысьці без мэты бяжым...*
*Жывучы на зямлі, я нашу ў сабе неба,*
*Неабдымнае неба люляю ў душы.*

*Мо таму я і веры ў дабро не губляю,*
*Мо таму не змарнеў сярод бур і нягод,*
*Што мяне на зямлі, як малітва, трымае*
*Неабдымнае неба кахання твайго.*

## Слова

*Як шмат патаемнага ў слове,*
*Якое з былінных часоў,*
*Як рэдкае зерне ў палове,*
*Блішчыць пазалотай высноў.*

*Высноў, што мы ў тлуме забылі,*
*Зацерлі ў пустой мітусні...*
*І раптам нанова адкрылі*
*Свае непаўторныя дні.*
*У тым слове, якое чакала*
*Свой час, як чакае заўжды*
*Шэкспіра свайго і Купалу*
*Народ, што душой малады.*

•

*Сярод бярозавай затокі*
*Пралесак спеюць астраўкі.*
*Дзень па-вясноваму высокі*
*Ад дотыку тваёй рукі.*

*Забыты крыўдныя папрокі,*
*Настрой пагодлівы такі...*
*Сярод бярозавай затокі*
*Пралесак спеюць астраўкі.*

•

*Пераступіўшы сталасці парог,*
*Пражытага старонкі зноў гартаю.*
*Я пасталеў на тысячу дарог,*
*Радзей знаходжу і часцей губляю.*

*Гудуць стагоддзя новага вятры.*
*І на мільён праблем няма адказу...*
*Усё ў былым: каханыя, сябры,*
*Я зноў адзін на раздарожжы часу.*

•

*Жыву, пакутую, люблю,*
*Малюся коласу і Богу,*
*З трывог і радасцей ляплю,*
*Днём і ўначы сябе самога.*
*Жадаю я спасцігнуць век,*
*Які пражыць не давядзецца...*
*І ўсё ж я, проста чалавек,*
*Гляджу на свет вачыма сэрца.*

•

*Грымотных вякоў раздарожжа,*
*Мяжа небыцця і быцця...*
*З нас кожны часовы прахожы*
*На дрогкай дарозе жыцця.*

*Таму не хачу мітусіцца,*
*Выпрошваць у часу выгод...*
*Паспець бы раллі пакланіцца,*
*Аддзячыць за хлеб і за пот.*



## ЧАСАПІС

# “Траектория взлёта”

Перафразіраваўшы вядомае выказванне, смела можна сказаць: “Паэзіі ўсе ўзросты паслухмяны”. У гэтым лішні раз пераконваешся, калі знаёмішся з кнігамі, якія нямала выходзіць у недзяржаўных выдавецтвах. Сярод аўтараў іх нямала і людзей, якія далёка не маладыя, але маладымі, нават юнымі



яны адчуваюць сябе, калі бяруцца за пяро, давяраючы паперы самае запаветнае. Разумею, што стаўленне чытачоў (ды і крытыкаў) да падобных памкненняў далёка не адназначнае, але для мяне асабіста прыемна, калі, разгарнуўшы чарговы зборнік, напаткоўваеш творы, напісаныя шчыра, з захапленнем. А менавіта такое пачуццё я перажыў, перачытваючы кнігу Лідзіі Мядзведзевай “Траектория взлёта”, што пабачыла свет у “Беларускім кнігазборы”. Аўтар яе не належыць да так званага філалагічнага пакалення. Нарадзілася ў 1942 годзе ў горадзе Алма-Ата, сярэднюю адукацыю атрымала ў горадзе Грозным, там скончыла і нафтавы інстытут, а пасля абараніла кандыдацкую дысертацыю па нафтавых эмульсіях. Працавала асістэнтам кафедры калоіднай і фізічнай хіміі, старшым навуковым супрацоўнікам. Апошнія дваццаць гадоў жыве ў Мінску. Друкавалася на старонках грозненскай маладзёжнай газеты “Комсомольское племя”, у часопісе “Нёман”. А больш пісала для сябе. Як прызнаецца Л. Мядзведзева (словы гэтыя вынесены на чацвёртую старонку вокладкі зборніка), “паэзія добрая Фея душы. Лечыць, саграе і, умацоўваючы жыццё бязмежна, вядзе ў цудоўны, загадкавы свет кахання”. У свеце, створаным Л. Мядзведзевай, яе лірычная гераіня адчувае сябе чалавекам, які, дзякуючы вялікаму пачуццю, на ўсё глядзіць пановаму, адкрываючы вабнасць там, дзе, здавалася б, многае даўно зразумела. Аднак, калі спявае сама душа, нельга гэтую песню трымаць у сабе:

*Нежным поцелуем*
*утро разбудило.*
*Засветилось смехом*
*солнечным в очах.*
*И любовь оконце*
*в новый день открыла.*
*И стекает зорька*
*с твоего плеча.*

*Заигрался ветер*
*шторкою оконной.*
*Напоил озоном,*
*влагою росы.*
*К нам приходит утро*
*радостью исконной.*
*И несет признанья*
*сладкие часы.*

Паэзія Л. Мядзведзевай, як бачым, шмат у чым жывіцца фальклорнымі матывамі. У гэтым пераконвае і яшчэ адзін безыменны верш: “То ли зорька // обронила // на лицо росу?// То ли радость мне // приснилась // в ягодном лесу?// Может — быль, // а может небыль в чистом звуке струй? // Может — был, // а может не был // жгучий поцелуй?//”. Каханне лірычнай гераіні — частка самога жыцця, яго найвышэйшае праяўленне і выяўленне, але ж жыццё, як вядома, не толькі радасці, а і ростані, не адны светлыя моманты, а і смутак перажыванняў. Аднак ад гэтага нікуды не дзенешся:

*Хотелось бы покоя,*
*но в нем оттенок скуки.*
*Любовь моя настоена*
*на горечи разлуки.*

Дый, калі да ўсяго ставіцца аптымістычна, не ўсё так і змрочна:

*Но горечь не полынную*
*любовь моя взрастила.*
*Так горечь тополиная*
*весной бывает мила.*

Лідзія Мядзведзева ўмее мысліць і складанымі вобразамі, тады нараджаюцца такія параўнанні: “Из тучи месяц вышел — // желтый клоун.// И нервы завязал // тугим узлом”. Але для яе гэта — не самамэта. Галоўнае, каб лепш выказаць сваю думку, тое, што на душы. І гэта ў кнізе “Траектория взлёта” ўдаецца.

Міхась ГЕНЬКА

---

Уладзімір ЦІШУРОЎ

## Дрэвы крэўныя

*Дрэвы вясковыя, крэўныя,*
*ліпы стаяць — каралеўнамі...*
*Ў самоце не чуюць смагі,*
*Касцюковічы і Шыпагі.*
*Збіліся хмар хатулі,*
*як думы забытай ба-бу-лі...*
*Гарчэе трава, пытае:*
*— Хто мяне паспытае?..*
*Нямее прастора і высі,*
*людзі нібыта звяліся,*
*і з кладоў пазіраюць задумна*
*надпісы з помнікаў сумных...*
*У мяне, напярэймы ловячы,*
*запыталіся Касцюковічы:*
*— Мо ты скажаш, якая прычына,*
*што ў вёсцы адзін-два мужчыны,*
*І травой зараслі каляіны...*
*І пытала няскошана поле:*
*— Няўжо корміць людзей*
*адно воля,*
*Мітусня і заробкаў шуканне? —*
*З вёскі з болем шугалі пытанні.*
*Было сорамна, мусіць, і мне*
*йсці па згорклай, зжухлай*
*траве...*
*Вёска ўслед мне кідала пытанні*
*у чаканні ўсіх нас*
*пакаяння*
*і да хлебных палёў вяртання...*

## Узнёсласць

*Зялёныя йдуць дажджы,*
*ручайком плывуць капяжы,*
*і вечар, як вольны мужчына,*
*звёў на ілбе маршчыны...*
*Вачам не глядзець у вочы,*
*ні ўдзень, а тым больш*
*уночы,*



В. Зуёнак з Г. Цітовічам

Фота А. КАЛЯДЫ

*ў вачах тваіх штось начное,*
*ў вачах тваіх штось качавое.*
*Мне драмай твае качэўе,*
*пустое маё начэўе,*
*і мне з кожным днём — гарчэй,*
*хто веру ў мой дзень уватчэ?*
*Чым апраўданы спех і хуткасць?*
*Была светлай твая прысутнасць.*
*У пустоце зімы і вёсны.*
*Дзе свята? Дзе ж ты і*
*ўзнёсласць?*

•

*Пытанне наводзіць на роздум:*
*дзе ж дзеўся нацыі розум?*
*Розныя разум-ні-кі*
*лезлі ў кіраў-ні-кі,*
*да ўлады, пасадаў,*
*да вялікіх акладаў...*
*І ў кожным годзе*
*жывуць сабе на выгодзе.*
*...Марыць аб хлебе народзе.*
*А дзе ж Ён, той, што,*
*дарэчы,*
*выведзе нас з галечы?*
*Розум той, з праніковасцю,*
*што выведзе нас з тупіковасці?*
*Пакінуўшы родныя межы,*
*Розум памчаў у замежжа.*
*Краіна панікла роздумна,*
*шукаючы свайго розуму.*

---

Ларыса РАМАНАВА

•

*першы снег як першае дыханне*
*першы снег як першае каханне*
*незнарок рыфмуецца падобнае*
*бачнае нябачнае*
*грэшнае святое*
*блізкае падводнае*

## Класічны футбол

*дзе па каранях блукае вада*
*там ты і я*
*дзе дрэвы робяць адчайны узмах*
*там наша бязмоўнае “ах”!*

*п’ём за Бога з табой*
*які тут на зямлі*
*зладзіў вёслы для чоўна*
*каб мы даплылі*

*з часу скрадзенага*
*ў час складзены*
*з часу зраненага*
*ў час ранішні*

*дзе на полі гарлачыкавым*
*зоркавыя матчы*

•

*шэрай асноваю снежань выснуе*
*тое што студзень і люты выслаўляць*
*карункамі шэранью птушыным цўканнем*
*каляны кляновы Міколам скаваны*
*саломай засланы*
*без цвікоў збудаваны*
*мост перакінецца*
*з дому у дом*
*з сэрца у сэрца*
*Душа асвяціцца*

•

Руноскэ АКУТАГАВЕ

*дрэвы згараюць увосень*
*нябачна*
*адлятае душа павуцінкай*
*якой няма нідзе месца*
*хіба толькі на пёрку*
*у птушкі*

Марыя БАРАВІК

## Ноты надзей

Аляксею МАРАЧКІНУ

*“Зімовыя птушкі”, “Зімовыя мроі”,*
*“Прывіды зімы” ды “Зімовы анёл”*
*Звясткуюць аб тым, што за белай гарою*
*Прачнецца, як песня, пралескавы дол.*

*Зімовыя мроі — агеньчык чакання*
*Высокага неба і белых буслоў.*
*З яго нараджаюцца гукі світання*
*І думкі-палотны, і колеры слоў.*

*Твае, Беларусь, неспакойныя зоркі,*
*Якія спачатку бягуць па расе,*
*Па чулай сцяжынцы,*
*На горку*
*І з горкі...*
*А потым іх талент*
*Да ўзлёту нясе.*

## Вяснее

*У лютым крыху мройна, зырка-бела.*
*Адбегласця зіма, бо адшумела.*
*І як яна не енчы, не скуголь —*
*у лютым мы снягоў адчулі кволь.*

*І хлюпае, і золіць пераходнасць,*
*Але прамень праўваўся,*
*Ён — на волі.*
*Душа ў цяпле святла паружавела.*
*У лютым крыху мройна, зырка-бела.*

•

*Вазьмі мяне у свет сваіх вачэй,*
*Хоць у праменьчык, спуджана-халодны,*
*Каб ён і пацяплеў, і паярчэў,*
*І стала я табе хоць крыху роднай.*

*Каб нам з табой было глядзець лягчэй*
*У дні іскрыстасці, імжы і снегападу.*
*Вазьмі мяне у свет сваіх вачэй,*
*Апромнены святлом майго пагляду.*

*Табе ж ані не будзе балючэй.*
*І, як душа пачне чакаць кагосьці,*
*Вазьмі мяне у свет сваіх вачэй,*
*Ну, хоць аднойчы ў госці да міласці!*

•

*На Вас глядзіць мая душа.*
*Яна самоціцца, і ўпотай*
*перапаўняецца пяшчотай.*
*І стан той нельга парушаць.*

*На Вас глядзіць мая душа*
*І непакоіцца ля Бога.*
*Ёй Вас так хочацца ўзвышаць*
*І блаславіць у свет-дарогу.*

*Замілаваная спярша,*
*за Вас трывожыцца душа*
*і набліжаецца да Вас.*
*Вы ёй даверцеся хоць раз.*

Сяргей ПАТАРАНСКІ

## Allegro

*Скрыпка Віцебска і флейта Мінска,*
*кубак гомельскай начной цішы,*
*— тое, што мне дадзенае блізкім,*
*тое, чым я мушу пець і жыць.*

*Штых Гародні, Несвіжу барока,*
*песнапевы слонімскіх муроў,*
*— тое, што мне створанае Богам,*
*скарбам першароднасці асноў.*

*Стод Смаленска, Беластока лаўры,*
*трыялеты віленскіх бажніц,*
*— тое, што узвышанае Марай,*
*Мрояй, у якой душу мне сніць.*

*І той сон — не казка, не легенда,*
*не дзівосы прывідных краёў,*
*— гэта тое, што мне непасрэдна*
*дадзена, як цела, дух і кроў.*

## Апокрыф

Прысвячаю
Віктару ЛАЎРАНЧУКУ

*Прысеў анёл са зломленым крылом*
*на мой балкон і папрасіўся ў хату.*
*Яго прыняў, на стол,*
*чым быў багаты,*
*сабраў, і аглядзеў крыло, дзе быў надлом.*
*А там сапраўдная бруіла кроў*
*і дыхала напружаная рана*
*не ладанам, а болем нестрываным.*
*І зразумеў анёла я без слоў.*

*Якой гарбаты ў кубак ні налі,*
*ты гэту рану проста не залечыш;*
*і нават спірт —*
*не лек у гэтых рэчах,*
*як не прынаджвай, колькі ў рот ні лі.*
*Падумалася мне: “Вось так і я*
*ў душы трымаю невылечнай рану,*
*і дзе шукаць лякарства,*
*каб адхланіць*
*яе пакуту, што расце штодня?..”*

*Магчыма, так прыходзіць чалавек*
*да нейкага душэўнага спакою,*
*калі знаходзіць боль з душой другою*
*агульны, то асіліць страшны грэх*
*адчаю, што дух вольны халадзіць*
*і смерці яго моташнай жадае.*
*І тут суцішыць боль дапамагае*
*цяпло сардэчнае, што пабуджае жыць.*

## Вінная песня

*Вып’ем, братка, па адной*
*— атрымаем мы спакой;*
*хоць бы крышачку спакою*
*ў дар набудзем мы з табою.*

*Вінны шал нас у палёт*
*возьме, дзе мільён прыгод,*
*панясе ў дзівосны рай,*
*якім мусіць быць наш край...*

*Пляшка добрага віна*
*спыніць, абарве спаўна*
*боль, нібы пакут стралу,*
*і адсуне прэч імглу.*

*Ілюзорным шчасцем мрой*
*споўніць нас віно сабой,*
*каб хоць у палёце тым,*
*праз грахоў дрымотны дым,*
*нам пабачыць светлы рай,*
*якім мусіць быць наш край.*

# З філалагічна-паэтычнага...

*Філфак Брэсцкага педінстытута (цяпер універсітэта) прывабіў мяне яшчэ задоўга да заканчэння школы: калі паступаць, дык толькі туды! Я ўсур'ёз думаў, што вучыць ён не толькі на настаўнікаў, а і на паэтаў. Ведаў, што адтуль мой школьны завуч Мікола Купрэеў, мой зямляк Міхась Рудкоўскі, мой сябар, як шчасліва сталася пасля, Васіль Жуковіч. Першакурснікам блізка сышоўся са студэнтамі Алесем Разанавым, Міколам Пракаповічам ды шмат з кім, хто імкнуўся пісаць і каго падахвочвалі такія педагогі і крытыкі, як Сяргей Гусак і Уладзімір Калеснік. Між іншым, Уладзімір Андрэевіч зрэдку пісаў вершы і сам, пра што мы тады маглі толькі здагадвацца.*

*Ды вось, зусім не на шкоду педагагічнаму іміджу, цяперашнія выкладчыкі-філфакаўцы сваю паэтычную творчасць усё больш "рассакрэчваюць". Спачатку, і даўнавата ўжо, мяне прыемна здзівіў кандыдат мовазнаўства Мікола Аляхновіч — цеплынёю і ўзважлівасцю радка, беражлівасцю да слова, прыроджанай, а не "вучонай" любоўю да яго. Крыху пазней адкрыўся Генадзь Праневіч, кандыдат літаратуразнаўства і разняволенай душы творца, які досыць утульна пачувае сябе і ў строгім класічным вершы, і ў народнай песеннай стыхіі. Ягоны калега Уладзімір Лебедзеў, наадварот, амаль у кожным творы стрыманы, ашчадны, найбольш, лічу, удаецца яму кароткі верш, у прыватнасці, трыялет. Нарэшце, Святлана Варонік, самая маладзейшая, іхняя колішняя студэнтка, а цяпер аспірантка. Яна ловіць самыя свежыя павевы ў паэзіі, аднак жа не захапляецца вобразам дзеля вобраза, імкнецца напаўняць лаканічныя радкі і важкаю думкаю, і адценнямі пачуццяў.*

*Усё чацвёра, відно, не прыхільнікі новай-старой формулы "паэзія — гэта гульня", і такая пазіцыя імпануе шмат якім паэтам-студэнтам, якіх на брэсцкім філфаку паранейшаму нямала. А менавіта аўтары, з якімі знаёмлю чытачоў "ЛіМа", ды іхнія калегі (сярод іх вядомы крытык і паэт Мікола Мішчанчук) стварылі добры, сяброўска-даверлівы, творчы асяродак на факультэце і ва універсітэце ў цэлым, дзе спеюць новыя купрэевы, рудкоўскія, разанавы. Так што на паэтаў тут усё-такі вучаць!*

**Алесь КАСКО**

## Мікола АЛЯХНОВІЧ

### Спадчына

Зямлю ару і камяні крышу
нарогам вострым, бацькавым нарогам.
Кладу барозны і вяду дарогу
наперад праз няпэўнасці мяжу.

Для сну мне часу не адводзіць лёс:
баюся — каб хаця загон адолець...
Не першы я на прадзедавым полі —
а колькі незасеяных палос!..

Да слова слова, да радка радок —
узорваю старанна ліст паперы.
Трымаю сілы на жыццёвай веры,
што будзе рунь, дзе быў адвечны ток.

●

— Не будзем секчы грушы,
хай расце...
Нічога, што старая...
Але ж кветам
вясною доўжыць ясны дзень...

Па садзе мама светлая ідзе.
Глядзіць на сад свой.
Шчыраю рукою
кранае дрэўцы,
меншыя і большыя.
І ўсякі раз да грушы падыходзіць —
апавядае бацьку,
як растуць
сыны і ўнукі.

### Ліст

Зайздрошчу я лістам сваім,
якія шлю табе насустрач, —
яны спаткаюцца з табой
хутчэй, чым я.
А слоў баюся — гэта таямніца:
што прачытаеш ты, акром таго,
што сэрцам я
хацеў сказаць?
А літарынку кожную аблашчу,
бо, як цяпельца, кожная асобна
тваім вачам
аддасць цяпло
вачэй маіх.

## Генадзь ПРАНЕВІЧ

### Чарнобыльскі эпілог

Нас жа не жменька,
а з шэсць мільёнаў...
Ф. БАГУШЭВІЧ

Нас шэсць мільёнаў...
Мы мора Чырвонае перабрылі.
Астатнія — на дне
Раўнадушнейшага ў свеце мора...
Па калені ў чарнобыльскім іле
Да сваёй ішлі мы зямлі...
І ў балота паціху
Спіхвалі нас канваіры...
Нам азвацца б,
Паклікаць
Пракокаў не прышлых —
Сваіх!
Ды здушыла нам горла
Старое адчайнае гора.
Скамянелыя,
Зноў перад светам
Маўкліва стаім.
Сёння — зноў, як учора!..

●

Спяць старыя бацькі —
Галава к галаве...
Душы іх паляцелі
Да дзядоў у адведкі часова...
І трывожуся я,
Што ў пахмеллі Харон
Выпадкова
Іх праз Шчару
На бераг другі павязе...

Знаю я: там іх хата старая
І кветкі пры саменькім доме,
Райскі сад за гумном
І ў яблынях пчолы звіняць...
Памарудзь,
Не бяры іх, Харон! —
Незваротная тая дарога.
Я пры іх пасяджу...
Хай старыя паспяць!

●

Ідучы на экзамен,
На белым пергаменце сваіх каленяў
Яна запісала формулу шчасця...

Яе захоплена чытаў
З-за спіны аднакурснік,
Што на студэнцкіх вечарах
Не раз запрашаў дзяўчыну
Да танцаў...

Крадком вывучаў,
Праходжваючыся між радамі,
Да строгасці змушаны
Выкладчык...

І толькі сама шчаслівіца
Нічога не ведала
Аб сваім шчасці.

●

Пазамятала снегам
Сцежкі-дарожкі...
Ці дачакаешся, мілая,
Канька варанога,
Конніка ўдалога?
Ні князя і ні стражніка,
Ні кніжніка і ні бражніка,
Ні злога апрычніка
І ні начальніка сталічнага...
А такога
малойчыка ўдалога,
Каб ляцець з ім у град
і ў сцюжу
Рук гарачых не расплятаючы,
Вуснаў салодкіх не размыкаючы...
Ці дачакаешся?
Пайшлі вятры языкатыя,
злыя
Пад вароты крупу калючую белую
сеяць,
На пустой мякіне варажыць...
Ой, тужыць дзеўцы краснай,
тужыць,
Ой, глядзець у акенца,
глядзець,
Зіму лютую праклінаючы,
Сонца яснага выглядаючы!..

## Уладзімір ЛЕБЕДЗЕЎ

●

Здавалася б, такі ўжо просты
Твор вершаваны — трыялет,
Але зрабі яго як след...
Здавалася б, такі ўжо просты,
Без мудрагелістых прыкмет:
Дзве рыфмы, дзве страфы... А вось ты
Які загадкавы, не проста,
Твор вершаваны — трыялет!

●

Свой лёс мы вызначаем самі,
А не празорцы ў кабінетах
Па зорках яркіх і планетах.

Свой лёс мы вызначаем самі:
Шлях толькі свой вядзе да мэты,
Хоць і губляецца часамі...

Свой лёс мы вызначаем самі,
А не празорцы ў кабінетах.

●

На сенавал праз адтуліны
Ранняе тчэцца святло.
Ціхая песня матуліна
Просіць згадаць, што было.

Радасцю сэрца напоўніцца,
З радасцю ў хату ідзеш...
Гэтак выразна ўсё помніцца,
Быццам спачатку жывеш.

●

Жаданні развее вецер,
Надзеі сплывуць вадой,
Лятункі сталасць адменіць, —
Адно каханне з табой.
Тое, што ў сэрцы б'ецца,
Тое, якое не госць,
Тое, з якім жывецца,
Тое, што вечна ёсць...

## Святлана ВАРОНІК

●

Падмурак і ганак маўчаць
пра сядзібу.
Прыступка запросіць у дом,
дзе травы буяюць.
Вачыма чыімі
кавалачак шкельца
шукае мяне...

●

Па вясне — засмучонасць ад страты.
Белы цвет — у пялёсткаву даль...
Хочаш — лісце маё аддай
перамерзламу дрэву...

●

Прыслухайся...
Ты чуеш крокі?
То цішыню спалохалі.
Бяжыць...

●

Вятры астуджваюць чаканне.
Вакзал прытуліць несустрэтых.
Халодны час ва ўтульным крэсле
прымусіць ветру давяраць...

●

Гуляе ў пары з дажджом
мая Туга.
А я запальваю свечкі,
каб па іх трымценні
Туга пазнала акно маё
і не зайшла да цябе часам.

●

Даўно ўжо няма прысадаў.
Толькі чорны асфальт і сляпыя пні.
Разглядаюць парасткі здзіўлена
неба.

●

Змялела рэчка.
Выцвіў стромы бераг.
Жаўцее адзінотаю пясок.
Рассыпаныя дні.

●

Снег да рукі папросіцца...
Раптам успомніш снег
з зоркамі пад палазамі.
Раптам успомніш бег
санак з гары да мамы...
Снег да зямлі прытуліцца.
Снегам душа затуліцца.

●

Перабяру з маўчаннем твае словы.
Так многа прамаўчала мне,
а я —
адгаварыць спяшаюся,
як быццам —
спяшаюся адгараваць...

●

Калі ўспамін пякучым болем
агорне зноў душу Тваю,
успомні дзень,
што яшчэ будзе.

## Галіна ВАРАТЫНСКАЯ

### Каляды

Па калядных снягах
крочыць наша святая Радзіма,
абвяшчае пра дзень
нараджэння Хрыста.
Бесклапотна і радасна
ўсім нам
сягоння надзіва
пасля доўгага посту,
пустога стала.

Зычыць змен і дастатку
калядна яркая зорка.
На святочных сталах,
нібы сонца, круглеюць бліны.
І душы на вятрах
вельмі ўтульна,
і сэрцу — не золка.
З намі — Вера і Бог.
Нам ніколі не здрадзяць яны.

●

Васілю БЫКАВУ

А на Вашай радзіме —
Вас быццам няма.
Правяць баль і балююць не тыя.
Увесь свет прызнае Вашу веліч дарма.
Пры жыцці не ўвядуць у святыя
тут, дзе чуць не чутно,
як гаворыць прарок,
дзе свайго аддадуць за чужога,
не вядомы наступны наш зладжаны крок,
вылучэнцам — далёка да Бога.
А на Вашай радзіме — тут шэрасць паўзе
на парнас і на трон — на вяршыню.
На збяднелых палях зямляк беднасць пасе
і надзея на лепшае гіне.

●

Рыгору БАРАДУЛІНУ

снасць нішчыць давер,
спапяляе і ўзмах, і надзею.
Ды з-пад прысаку зноўку
праб'ецца сцяблінка тугі.
Зноў сыноўняе сэрца
Радзіма ўспамінам сагрэе,
бо адзіная ў свеце,
і Вы ў ёй ніяк не другі.

Змрок яшчэ будзе доўга
Ваша сэрца без жалю нявечыць,
будзе іншых адданых
ахінаць чорнай хмараю зло.
Хай суцешыць адно,
што ў жыцці Вашым
яшчэ не вечар.
Аб чым мроіцца — лепей
за тое, што ёсць і было.

## Уладзімір ВАСІЛЬКОЎ

### Геній

Стаяў на краі апраметнай
І толькі болю верыў я.
А ты прыйшла. Так непрыкметна.
Шапнула яснае імя...

Прыйшла жывой, раптоўнай марай,
Слязінкаю святой крыві,
Была падчас ты боскай карай
І чыстым геніем любві,

І адкрыццём нябеснай тайны
Сагрэла ружу на душы...
Праз сон, бурлівы і адчайны,
Надзею вынес я з глушы.

### Душа

Мая душа як ястраб дзікі...
М. БАГДАНОВІЧ

На волю рвецца несціханая душа,
Душы абрыдлі ўсе зямныя забабоны.
Яна імчыцца у нязмушаны абшар
І пасылае шэрай марнасці праклёны.

Яна смяецца над мярцвяцкай цішынёй,
Што агарнула розум мой
фальшывай трызнай.
Каб акрыліцца недасяжнай вышынёй
І разагнаць стальныя
хмары над Айчызнай,

Няхай у мроях пра высокі ідэал
Душа з быццём зямным
не атрымае згоды;
Перажыве яна бязлітасны абвал
І, адрадзіўшыся, уздыме сцяг Свабоды.

Не спакушайце вольны дух
ціхмяным сном.
Я не хачу чакаць парадкаў літасцівых!
І не прызнаю я тырана каралём
Перад натоўпам
бессумленных і маўклівых...

У фанатычнай чысціні нязгасных дум
Я адракаюся ад тленнага маўчання.
Не затрымаць душы маланкавай пярун!
Не заглушыць майго
балючага прызнання!..

●

Мой ціхі і ласкавы смутак!
Надтрэснутай скрыпкі напеў...
Кахаю... Пытаю... Чаму так?
Згубіў. Не паспеў. Не сагрэў...

А ты маеш зорныя вочы
І свежасць анёльскіх крыніц.
Я быў на каленях аднойчы...
А зараз я падаю ніц.

## Іван КЛІМЯНКОЎ

●

*То ўскок, то паволі*
*І ўдзень, і ўначы*
*Ад лёсу, ад долі*
*Спрабую ўцячы.*

*Мяняю напрамкі*
*То ўбок, то наўскос —*
*За мною маланкай*
*Кідаецца лёс...*

●

*І зноў адзінота — без сценаў турма,*
*Цяжэй пакарання на свеце няма.*
*Дарэмна чакаў я і клікаў сяброў —*
*Ніхто не азваўся, ніхто не прыйшоў.*
*Ад крыўды згараю і прагну адплаты,*
*Ды горка так ведаць, што сам вінаваты...*

●

*Не трэба спачуванняў,*
*Уздыхаў і спагады, —*
*Той безлічы пытанняў*
*Вы не дадзіце рады.*

*Мой шлях — ён мне адмеран,*
*Я да яго прыкуты*
*Салодкім хмелем веры*
*І прысмакам цыкуты.*

*Святым не быў ніколі,*
*Ніколі ім не стану,*
*Таму і столькі болю*
*У душы маёй заганнай.*

*Нішто мне несуцешна*
*На гэтым свеце бачным,*
*Апроч дарогі грэшнай*
*З раскайваннем і плачам,*

*З надзеяй несумніўнай,*
*Што ў Бога я не лішні,*
*Што мне мае правіны*
*Даруе Усявышні.*

●

Памяці бацькі

*Ноччу бацьку прысніў.*
*Не прысніў — ён з'явіўся ў сне.*
*Ён глядзеў — не вініў,*
*Як хацеў ён абняць,*
*Як хацеў ён прылашчыць мяне!*

*Я ірваўся душой,*
*Я імкнуўся, ляцеў да яго,*
*І на момант мяжа паміж намі прапала,*
*Мы амаль абдымалі адзін аднаго,*
*Але толькі — амаль,*
*Для абдымкаў пара не настала...*

●

Да карціны Рэмбранта "Вяртанне блуднага сына"

*Знікае спадманлівы сцень*
*Ружовых надзей і імкненняў.*
*Жыццё, ў гэты праведны дзень*
*Я стаў прад табой на калені.*

*Пакорлівы, ціхі стаю —*
*Ні думак спакусных, ні мрояў,*
*Душою стамлёнай лаўлю*
*Цяпло міласэрных далоняў.*

*Ты доўга чакала мяне.*
*Я бег, аддаляўся ўсё болей,*
*Нібыта ў пакутлівым сне*
*Ганяўся за здрадлівай доляй.*

*Не кратаў свядомасць маю*
*Твой голас трывожна-цвярозы.*
*І вось — на каленях стаю,*
*Глытаю салодкія слёзы.*

## Алесь КОРНЕЎ

### Вятры, вятры...

*Не помню я, з якой пары*
*Няспыннай хваляй зухаватай*
*Шумяць вятры, гудуць вятры*
*Па-над старою нашай хатай.*

*То з захаду яны з-пад хмар*
*Вадой струменяць проста ў вокны,*
*І поле наша — о, кашмар! —*
*Нібы ў слязах уласных мокне.*

*А то ўрываюцца вятры,*
*Узбунтаваныя, з усходу.*
*Папляжаць, скосяць без пары*
*Ледзь зарунелыя ўзыходы.*

*Ці раптам сівер прыляціць —*
*І мы ад інею сівеем.*
*Ці поле зжоўкне, затрымціць*
*Пад ненажэрным сухавеем.*

*Нямала шчэ другіх падзей*
*Раздзьме вакол нас вецер гонкі...*
*Ды ўсё ярчэй агнём надзей*
*Гараць рабінавыя гронкі!*

●

*Прайшлі і людзі, і гады —*
*І зніклі ў зелені Эдэма...*
*Але вяртаюцца дзяды*
*Сюды... З Адамавай паэмы.*

*І чую не раз я, што, нібыта,*
*З'яўляецца ўначы знянацку*
*Адзін з мінуўшчыны забытай*
*У вобразе сваім юнацкім.*

*Вяршыні дрэў — без калыхання,*
*З-за іх і месяц бачны слаба.*
*А ён згарае ад кахання,*
*Шукае: дзе яго прываба?*

*Ці мо яна пабегла ўпрочкі?*
*А можа, вернецца ў альтанку?*
*Зажмурыць месяц сваё вочка —*
*Юнак засне... А на світанку*

*Русалачка яго ў абдымкі*
*Бярэ маўклівa і лагодна,*
*Ахутаўшы шаўковай дымкай,*
*Хаваецца ў прасторы воднай....*

*Ля свіцязянскае вады*
*Заўсёды, днямі і гадамі,*
*Сядзяць... сучасныя дзяды*
*І вудзяць... прывіды Адама.*

●

*Дзе час той нябачны і месца такое,*
*У якім нараджаецца шчасце людское?*
*Дзе тая святая жывая крыніца,*
*З якой увесь час асалода бруіцца,*
*А разам — настрой і душы хваляванне*
*За ўвесь Белы Свет, за сваё існаванне?*
*Адкуль наша шчодрасць,*
*пяшчота і дзіўнасць,*
*І не растаптаная наша наіўнасць?*
*Адкуль і жаданне, і боль, і маленне*
*Нячутна ўліваецца ў наша сумленне?*
*А гэта ўсё разам заўсёды мы бачым*
*У шчырым, адкрытым пaглядзе дзіцячым.*
*І мо нездарма кожны гэтак ахвочы*
*Глядзець безупынна ў дзіцячыя вочы,*
*Дзе ўсе растваpаюцца нашы праблемы,*
*Дзе светлай душэўнасцю гоім сябе мы.*

г. Баранавічы

## Алена КЛЮЧЫНСКАЯ

●

*Падлячу да акна твайго*
*Кляновым апалым лістом.*
*Лісток гэты — сэрца маё,*
*Я табе ахвярую яго.*
*Ты яго не страсай ніколі.*
*Наталю сваю смагу,*
*Прытупіцца боль,*
*Закружуся паволі*
*І знікну*
*Забудзешся ты*
*Пра сумную восень.*
*Толькі кожны год лістапад*
*Будзе стукаць табе ў акно,*
*Будзеш ты яму рад.*
*Ціха стукае ў шыбу*
*Сэрца маё*

●

*Мой сум, як дзікі звер,*
*Высочвае мяне, крадзецца,*
*Але ў рукі не даецца.*
*Мой сум — драпежны звер.*

*Ён затаіўся ціха-ціха,*
*Высочвае адну мяне,*
*Другую ж, пэўна, абміне.*
*Ён затаіўся, быццам ліха.*

*Драпежны, як асот, калючы,*
*Сваёй касцістай, моцнай лапай*
*Усю душу маю падрапаў.*
*Драпежнік раніць так балюча*

●

*На вежах касцёла*
*апошнія промні.*
*Зайгралі вясёлкай*
*агні ў вітражах.*
*А дрэвы застылі —*
*чакаюць ад поўні*
*палёгкі і мараць*
*аб цёплых дажджах.*
*І мёдам духмяным*
*паветра здаецца.*
*І хочацца болей*
*той водар адчуць.*
*А вечар зялёны*
*ракою ліецца*
*І ўсё запаўняе —*
*то ліпы цвітуць.*

●

*А ранак толькі нарадзіўся:*
*Туман пачаў з зямлі сыходзіць,*
*Праменьчык першы абудзіўся —*
*Дрыготкі, кволы і халодны.*

*Раса трымаецца на травах,*
*Крыштальнай чысцінёй мігціць.*
*Нячутна спеваў у дубравах,*
*І жаўручок яшчэ маўчыць.*

*А ўзыдзе сонейка высока —*
*У мурожных росах цішыня*
*Патоне, зашуміць лістота*
*Гамонкай чэрвеньскай дня.*

## Аляксандра БАБАРЫКА

●

*Каханне бесклапотнае,*
*Тужлівае каханне —*
*Маўклівае, журботнае,*
*Бясконцае чаканне...*
*Пачуцці мімалётныя*
*Зламаны ўшчэнт і ўдым.*
*Каханне — паўсядзённы*
*Пра сэрца напамін.*

## Таццяна МУШЫНСКАЯ

### Арэлі

*Арэлі хмельнае радасці —*
*Узлятаюць,*
*Узлятаюць,*
*Узлятаюць.*

*Пачуцці мае летуценныя —*
*Лунаюць,*
*Лунаюць,*
*Лунаюць.*

*Арэлі хмельнае радасці —*
*У неба,*
*У неба...*
*У неба!*

*Імгненні палёту бясконцага —*
*Так трэба,*
*Так трэба,*
*Так трэба!*

●

*Душа — як астральнае цела,*
*Празрыстае і лёгкае.*
*Ляцела ў паветры*
*І зачапілася за галіны дрэва.*
*Імкнецца далей,*
*Ды ніяк адарвацца не можа.*
*Гэтак я зачапілася за галіны*
*Твайго дрэва,*
*І ніяк не магу паляцець далей.*
*Хоць імкнуся, хоць намагаюся...*

●

*З хаосу згадак я*
*Гармонію ствару.*
*Самоту ўласную*
*Перараблю у вершы.*
*Ты будзеш у іх*
*Героем лепшым, першым.*
*Цябе я слухаю —*
*З Сусветам гавару.*

●

*Цёмным расплаўленым золатам*
*Вочы твае мне здаюцца.*
*Боязна мне апячыся,*
*Боязна мне дакрануцца.*

*Цёмнае даўняе золата*
*Плавіць душы халадок.*
*Пройдзе апёк, застанецца*
*У памяці толькі радок.*

●

*Мне так дзіўна,*
*Што прыйдзе вясна без цябе.*
*Дзень і ноч будуць крочыць*
*У сваёй чарадзе.*
*Не знайду я цябе*
*Анідзе, анідзе...*
*Мне так дзіўна,*
*Што прыйдзе вясна без цябе.*

## Сяргей РАБЧУН

### Стома

*На захадзе*
*чырвань туманная тае,*
*снягі зачараваны*
*сумам бяроз,*
*і з прыгаршні месяца*
*вечар кідае*
*насенне сузор'яў*
*у глебу нябёс.*

*Сівая ідылія...*
*Толькі вось сэрца*
*ужо не хінецца*
*да кволай душы,*
*і мне штосьці важнае*
*хочацца сцерці*
*з балючае памяці*
*ў золкай цішы.*

●

*І я ўваскрэсну нанава*
*праз вечнасць пасля смерці —*
*са слова вершаванага,*
*якому не памерці,*
*калі на кіпці месяца —*
*ў свой час і без падвоху —*
*журба мая павесіцца*
*у зор навідавоку.*

●

*Дзе пралёг мой шлях,*
*не знайсці дарогі.*
*Па маіх слядах*
*чорт паломіць ногі.*
*Угару ўвесь час*
*нёс Пегас галопам...*
*Думаў я — Парнас,*
*а зірнуў — Галгофа.*

●

*Мне быць сабою ўсё цяжэй —*
*не веру больш сабе самому.*
*І чым да ісціны бліжэй,*
*тым незваротней*
*шлях дадому.*

●

*Штодня*
*ў апраўданне*
*шукаю прычыну,*
*калі перад Богам*
*упарта грашу, —*
*душу*
*распранаю,*
*нібыта дзяўчыну,*
*І вершы, уражаны*
*ёю, пішу.*

*І мне ад яе*
*больш нічога не трэба:*
*каб толькі спявала,*
*каб толькі жыла,*
*каб толькі імкнулася*
*ў зорнае неба*
*і роўнай між роўных*
*заўсёды была!*

м. Плешчаніцы, Лагойскі раён

## Святлана АБДУЛАЕВА

●

*У снежнай завеі гублялася ўсё:*
*Бярозавы гай за дарогай,*
*Малыя хацінкі раскіданых сёл*
*І велічнасць дуба старога.*
*У рытмах зімовых кружыўся прастор,*
*Знікалі абрысы прадметаў,*
*Сняжынкі ляцелі, як ціхі дакор,*
*А сэрца так прагнула лета*

### Сон

*Ад вогнішча ўздымаўся белы дым,*
*Мяняючы ўвесь час арыенціры*
*Так і душа мая, як вольны пілігрым,*
*Якi не развучыўся граць на ліры.*
*У кругаверці хуткацечных дзён*
*Шукаю безупынна нейкіх ісцін.*
*Ды раптам разумею: сніца сон*
*І ісціны зляпаюць жоўтым лісцем.*

### Напрадвесні

*Было ўсё гэта напрадвесні:*
*Гучала музыка ўдалечы —*
*Спяваў, здаецца, Элвіс Прэслі*
*У стылі рок-н-рол аб нечым.*
*Як німб зімовай таямніцы,*
*Віселі срэбныя дажджынкі*
*На тонкім голлі вербаў ніцых,*
*Што ўздоўж раслі вакол сцяжынкі.*
*Бязлісты клён асіраціла*
*Глядзеў за небакрай кудысьці*
*А Музыка яна ляцела*
*У эфір, нібы ў святое выйсце*

●

*Накрапваў дождж нясмела па альтанцы*
*Кляновы ліст ляцеў да аканіцы*
*Павольна, быццам у трохдольным танцы,*
*Пад ціхі шэпт рабін і вербаў ніцых.*
*Кастрычнік плёў напрыканцы стагоддзя*
*З зялёнай дзеразы дыван цудоўны*
*І ў светлай між зямлёй і небам згодзе*
*Асенні лес спакою быў, як келіх поўны.*



Фота Наталлі ЖЛОБЫ

## З гісторыі СБМ



Мінскае выданне "Энцыклапедыкс" выпусціла сёлета чарговую кніжку з серыі "Бібліятэка часопіса "Беларускі Гістарычны Агляд". Аўтар кніжкі "Вырваныя бачыны (Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі)" — Лявон Юрэвіч. У прадмове да яе рэдактар Алег Гардзіенка піша: "Беларускія дзеячы, якія сталі "супрацоўнічаць" з немцамі пасля чэрвеня 1941 г., дзяліліся як найменш на дзве катэгорыі: адныя (меншыня) шчыра верылі, што немцы паспрыяюць беларусам здабыць незалежнасць; другія (бальшыня) вельмі хутка пераканаліся ў прапагандысцкім характары нямецкіх дэкларацыяў і таму імкнуліся найбольш эфектыўна скарыстаць акупацыю дзеля беларускае працы, скіроўваючы намаганні найперш на развіццё культурніцкага руху ды школьніцтва, каб закласці трывалы нацыянальны падмурак на будучыню". Кніжка Юрэвіча — чарговая спроба перагледзець афіцыйна-дзяржаўнае стаўленне да "калабарацыі", спроба ліквідаваць праблемы ў гісторыі Саюза беларускай моладзі (СБМ), створанага на Беларусі 22 чэрвеня 43-га.

Галоўнай структурай арганізацыі быў кіраўнічы штаб на чале з Міхасём Ганько, дзявочыя структуры саюза ачольвала Надзея Абрамава. Дзейнічалі акруговыя арганізацыі СБМ, яго павятовыя суполкі, а таксама ячэйкі ў гарадах, вёсках, школах... У статуце саюза пазначалася, што яго мэта — "узгадаваць маладых, ідэйных, мужных і паслядоўных будаўнікоў Новае Беларусі..." А сябрамі арганізацыі былі юнакі і дзяўчаты векам ад 10 да 20 гадоў.

"Несумненна, нямецкія ўлады разглядалі СБМ як будучы інструмент сваёй палітыкі, — зазначае Гардзіенка, — як сродак узгадавання верных прыхільнікаў гітлераўскай Нямеччыны. Аднак беларускія нацыянальныя дзеячы — а менавіта яны непасрэдна кіравалі арганізацыяй — глядзелі на СБМ цалкам з іншых пазіцый. Саюз Беларускае Моладзі стаў школаю беларускага патрыятызму, актыўным прапагандыстам роднае мовы і культуры..."

Кніга Лявона Юрэвіча, беларускага даследчыка, які жыве зараз у Амерыцы, складаецца з успамінаў брата Міхася Ганька — Міколы; з інтэрв'ю з Валерам Навіцкім, які падчас нямецкай акупацыі кіраваў СБМ на Случчыне; з лістоў Надзеі Абрамавай.

Лявон Юрэвіч перакананы, што ў беларускай гісторыі мінулага стагоддзя існуюць яшчэ прагалы — тэмы, падзеі, інтэрпрэтацыі — тыя часткі агульнага цэлага, адсутнасць якіх калі й не змяняе карціны мінулага, дык, прынамсі, робіць яе менш каляровай, вузейшай, прасцейшай. "Гэта — вырваныя бачыны з Кнігі Гісторыі. Адшукаць гэтыя бачыны й укласці іх у Кнігу, няхай адно паасобныя з іх — такім бачыцца заданне й сэнс гэтай публікацыі".

Застаецца дадаць, што кніжка Юрэвіча адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю, бо выпушчана накладам усяго ў 500 асобнікаў.

Яўген РАГІН

Алесь ГЕРАСІМЕНКА

### Купала

*Кропля расы ранкам ціхім упала —*
*Гэта Купала...*

*Зноўку зязюля гады пракувала —*
*Гэта Купала...*

*Шчасце ўначы маладых адшукала —*
*Гэта Купала...*

*Прага да праўды людзей аб'яднала —*
*Гэта Купала...*

*Мова дзядоў ва ўсю моц загучала —*
*Янка Купала!..*

### Прымірэнне

*Паўстаў недавер,*
*Узнік, нібы звер,*
*У позірку роднага бацькі.*
*Як быць мне цяпер:*
*Разладдзя асвер*
*Пячэ ў зледзянелыя пальцы.*

*Я выйсце шукаў*
*Ды штосьці змаўчаў,*
*Не ўсё расказаўшы старому.*
*А ён гэта ўраз*
*За здраду ўспрыняў —*
*Больш слухаць не хоча нічога.*

*Паўстаў недавер,*
*Узнік, нібы звер,*
*Як воўк, паміж сынам і бацькам...*
*Ды чуецца: "Вер!*
*Звера таго*
*Адолее мудрая маці".*

•

*Разнясліся хаўтурныя спевы далёка,*
*Гучна выюць ваўкі, лісы брэшуць услед —*
*Гэта дзікім лясным шматгалосым патокам*
*Адплывае дваццаты няспраўджаны век.*

*Толькі ўбачылі сонца, глынулі паветра —*
*Як адразу ў ярмо звар'яцелых ідэй.*
*Не паспелі сустрэць васільковае лета —*
*Як спазналі мароз густаснежных начэй.*

*Уразбітым люстэрку людскіх спадзяванняў*
*Вы заўважыце сёння не казачны сон:*
*У сучасным люстэрку застыла чаканне,*
*Нашых продкаў туга ды нашчадкаў праклён.*

*...Разнясліся хаўтурныя спевы далёка.*
*Але, не — пачакайце! Мне чуецца звон*
*Нарадзіўся й расце, каб бомканнем звонкім*
*Назаўжды разагнаць горкай здрады палон!*

Мечыслаў ШАХОВІЧ

•

*Пакуль ёсць ты, Радзіма мая,*
*праз гады*
*Я з дарогі ніколі,*
*ніколі не збочу.*
*І гляджу так даверліва я,*
*малады,*
*У твае нарачанскія*
*сінія вочы.*

*Па расе басаном*
*хлапчуком зноў бягу,*
*Хоць мінула гадоў*
*ад дзяцінства нямала.*
*І шукаю я*
*папараць-кветку-тугу,*
*Што сасніў і ўславіў*
*калісьці Купала.*

•

*Колькі светлых*
*бярозак-свечак*
*Асвятляюць лес —*
*родны дом.*
*Дуб пасе валуноў-авечак,*
*Сцеражэ іх*
*ноччу і днём...*
*Толькі хмары здалёк —*
*валацугі*
*На камене*
*цкуюць перуны.*
*І маланкі —*
*балючыя пугі*
*З трэскам сцёбаюць*
*валуны.*

Галіна ЯБЛОНСКАЯ

### Веранiка

*Мне б назваць цябе, любая, Ганнай,*
*Так, як звалі прабабку тваю,*
*Толькі, пэўна ж, для зорачкі яснай*
*Лепшай долі я ў Бога малю.*

*Ганна — гэта імя для абраных:*
*у Карэнінай — боль і адчай,*
*у Какуевай — іншы каханы,*
*у Ахматавай — горыч і жаль.*

*Колькі ў свеце прыгожых імёнаў!*
*Але шчасця на ўсіх не стае.*
*Як імя адшукаць, каб да скону*
*Зберагло ад пакутаў цябе?*

*І жыццё мне само падказала:*
*Веранікай дачку назаві,*
*Каб любілі яе і чакалі*
*У самых розных куточках зямлі.*

*Нам патрэбныя ўсім перамогі,*
*Веранікі нясуць іх з сабой,*
*Асвятляючы сцежкі-дарогі,*
*Быццам светач над грэшнай зямлёй,*

*Вобраз мілы: чароўны нязвыкла,*
*Ажывае ў дзяцінстве, і зноў*
*Багдановічава Вераніка*
*Прыйдзе з даўніх, загадкавых сноў.*

### І зорам сумна без Максіма

*Ці ведала зорачка, шлях асвятляючы,*
*Што згасне, пакінуўшы столькі надзей?*
*Ці думала маці, сыночкаў люляючы,*
*Што будзе бязлітасным лёс да дзяцей?*

*Праплыў па зямлі Страцім-лебедзем белым*
*Ягe задуменны, узнёслы Максім.*
*Застаўся навекі мяцежным і смелым,*
*Такім — палымяным, такім — маладым!*

*У жыце цвітуць васількі сінявокія.*
*Спляце Вераніка Максіму вянок,*
*Каб сцерліся ў памяці дні адзінокія*
*У Ялце, дзе — мора, дзе — жоўты пясок...*

### Пры святле поўні

*Я нічога табе не скажу,*
*Як жыву я, чаму тужу.*
*Поўня моўчкі глядзіць у вакно,*
*Зоркі ў небе патухлі даўно.*

*Сонны ветрык прылёг на мурог,*
*Абляцеўшы дзесяткі дарог.*
*Даспявае, крамяніцца сад...*
*Нам ужо не вярнуцца назад —*

*У пяшчотны чаромхавы май,*
*У вясёлкавы сонечны край.*
*Лёс не даў нам сустрэцца тады,*
*Калі месячык плыў малады...*

*Льецца з поўні халоднай святло*
*На сады, на людзей, на сяло.*
*Кветкі бачаць ружовыя сны,*
*Хоць вясны не сустрэнуць яны...*

Бярэзінскі раён, вёска Любушаны

Змітрок КУЗМЕНКА

•

*Зваяваны горад на каленях,*
*абаронцы знішчаны даўно.*
*Сціх пажар, раструшчана каменне.*
*У варожых келіхах — віно.*

*У мінулым доўгая аблога*
*І апошняй сечы кроў і пот...*
*Ворагі святкуюць перамогу:*
*Скораны яшчэ адзін народ.*

*Скораны. І ля разбітай брамы*
*Некалькі чужынскіх ваяроў*
*Паляць кнігі, вынішчаюць памяць,*
*Скарбы храмаў і манастыроў.*

*Нішчыцца пергамент і папера,*
*Вогнішча шалее на вятры.*
*Полымя з'ядае ненажэрна*
*Думкі чалавечыя ў кастры.*

*Глупства, што напісанае — вечна,*
*Што яно, насуперак бядзе,*
*Застаецца на Зямлі навечна,*
*Быццам хвалі вольныя ў вадзе.*

*Змрок занадта лёгка Кнігі крые;*
*Чорныя, нямеюць аркушы,*
*Хутка — смерць. І толькі ветру крылле*
*Мёртвы попел будзе варушыць.*

•

*Гавораць часам так, што проста тлумна,*
*І каб жа толькі злыя языкі.*
*Прывыклі людзі нашыя бяздумна*
*Ляпіць на чалавека ярлыкі.*

*Хто б ты ні быў — мужчына ці жанчына,*
*Рабочы, музыкант ці журналіст —*
*Калі ты патрыёт сваёй краіны,*
*Адразу ты і нацыяналіст.*

*Незразумела, дзіка і абсурдна:*
*Як можна толькі атаясамляць*
*Высокае з нікчэмным і аблудным*
*І на сваю мінуўшчыну пляваць?*

*Усе народы годна ад калыскі*
*Нясуць свой скарб і ў шчасці, і ў журбе,*
*Дык што, яны усе — нацыяналісты?!..*
*А наш народ баіцца сам сябе.*

•

*Гісторыя. Руіны, абеліскі,*
*Запыленыя сховішчаў куткі.*
*Пажоўклыя пергаментныя світкі.*
*Скупыя летапісныя радкі.*

*Прыдворныя вiруючыя кодлы.*
*Уладныя князі. Аматары інтрыг.*
*І побач з годнасцю —*
*атрута, здрада, подласць,*
*Паклёп і сцены, звернутыя ў слых.*

*Гісторыя. Высновы, меркаванні.*
*Трактоўкі розныя адных і тых жа дзей.*
*І як адрозніць праўду ад падману,*
*Як разабрацца ў сутнасці падзей?*

*Гісторыя, цікава, ёсць хто чысты,*
*І хто ёсць хто ў мінуўшчыне Зямлі?*
*І як бы ты ацэньвала фашыстаў,*
*Калі б усё ж яны перамаглі?*

*Гісторыя, прабач за гэтыя словы.*
*Бо дзе мы можам толькі меркаваць,*
*Ты ведаеш, але не маеш мовы,*
*Сама не ў стане нешта расказаць.*

*Я знаю, гэта не твае скажэнні,*
*А проста ў якасці добраахвотных слуг*
*З табой павінна быць само сумленне,*
*Замест стваральнікаў сенсацый і паслуг.*

*Інакш — ісціна трапляе пад сумненне,*
*І праўдай лічыцца нахабная мана.*
*Гісторыя. Маўчыш ты безнадзейна.*
*Так трэба. Гэта не твая віна.*

Адольф ВАРАНОВІЧ

### Сябрам

*Няўмольна набліжаецца хвіліна,*
*Якую аніяк не аддалю,*
*Калі я гэты белы свет пакіну*
*І назаўсёды лягу у зямлю.*

*І без мяне прыходзіць будуць вёсны,*
*Бруіцца рэкі і шумець лясы*
*І восень ткаць узорыстыя кросны*
*Самотнай і задумлівай красы.*

*А для мяне нічога ўжо не будзе:*
*Ні росных траў, ні цёплага дажджу...*
*Таму цяпер я вельмі ўдзячны людзям,*
*З якімі разам па зямлі хаджу.*

*Якіх прыветна кожны дзень вітаю,*
*З якімі радасць і бяду дзялю,*
*Якіх, як і мяне, не пакідае*
*Трывога за бацькоўскую зямлю.*

*А калі ўсё ж апошні час настане,*
*Я выдыхну нямоглымі грудзьмі,*
*Каб прашаптаць усім на развітанне:*
*Заўсёды заставайцеся людзьмі!*

Май. 2001 г.



Вогнішча А. Варановіча

*Да школьных, у клетачку, лістоў з вершамі Аляксандра Красоўская далучыла і лісток "Аб сабе". Яна піша: "Нарадзілася ў 1968 годзе ў самым цудоўным, самым рамантычным горадзе на Зямлі — Віцебску. Віцебскія каштаны — найвялікшы цуд, які давялося бачыць. Скончыла Віцебскі пединстытут, працую настаўніцай пачатковых класаў Камароўскай СШ Віцебскага раёна.*

*Мне здаецца, наш горад мае сваю непаўторную аўру дабрыні, рамантычнасці, творчай акрыленасці.*

*Паэзіяй захаплялася заўсёды. Першая ўласная спроба пяра адбылася ў такім раннім узросце, калі колькасць гадоў можна было запісаць адной лічбай. Маю публікацыі ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. У "ЛіМ" асмелілася звярнуцца ўпершыню". Некалькі вершаў А. Красоўскай прапануем увазе чытачоў.*

## Аляксандра КРАСОЎСКАЯ

●

Стаю, свае згубіўшы крылы,
Згубіўшы свой адметны лёс.
Маўчаць зялёныя магілы
Ў міжраддзі хвояў ды бяроз.

І, не марнуючы хвіліны,
аблокаў шэрыя рады
плывуць пацяху ў далячыні,
і вецер зносіць іх сляды.

### Кветкі

"Все тебе, все тебе, все тебе..."
**Вен. БЛАЖЭННЫ**

Ўсё табе — супярэчлівасць дзён,
Мае тайныя жахі-малітвы,
Мой начны несапраўдны праклён,
Залацістыя дум аксаміткі.

Ўсё табе... Недарэчлівы сум
Прыціскае да сэрца далоні,
Я хачу, каб аднойчы пачуў
Ціхі шэпат чырвоных півоняў;

Каб, да кветкі прыпаўшы чмялём,
Піў з улоння таемную вільгаць;
Каб дрыготкім празрыстым крылом
Ахінуў дасканалую блізкасць.

●

Тонкаю намітакаю смугі,
Як вэлюмам таемнасці і суму,
Завешаны рачныя берагі
... мае сцішаныя мроі-думы...

●

Прарасце мая пяшчота
скрозь граніт старых муроў.
Боль прыму, як адзіноту,
неакрэсленасць умоў.

Не прыходзь у горад, Сонца!
Будзь ласкава, абміні!

Ды шукаюць ўсё ж ваконца
сярод хмараў прамяні.

Я амаль ужо ў адчаі.
Шчэ занадта кволы расток.
Мой анёл яго крыламі
Ад бязлітасці бярог.

Сонца прагнымі рукамі
дакранецца і спячэ.
І калі над камянямі
зноў пяшчота узрасце?

●

У тым разгадка нашага жыцця
і прызначэнне людскае істоты,
каб адчуваць напоўненасць быцця
імгненнямі найвышшай асалоды!

●

Бывае дзень бязлітасны, глухі,
Калі ўспыхваюць пакутлівыя раны.
Зноў апантаная прылівамі тугі
У роспачы аб нечым невызнаным.

Ўзгадай мяне, хрышчоную агнём,
з маім паганскім першабытным болем, —
хай далікатным позіркам анёл
мае турботы вечныя натоліць.

●

А я атруты келіх пенны
разлію якраз ў жыццё маё....
**Ул. ЖЫЛКА**

Бутоны, пругкія бутоны
нерасквітнелых покуль дзён.
Жыцця лагоднага сутонне —
недасканаласці праклён.

Кахання яснавокі прывід,
Узрушанасць і немата...
Да дна атрутны келіх выпіт.
І зноў за вокнамі слата.

*Шаноўная рэдакцыя! Калісьці, даўнавата ўжо, на старонках Вашай газеты адбыўся мой паэтычны дэбют. Пасля, па накіраванні "ЛіМа", я прымала ўдзел у семінары творчай моладзі ў "Іслачы" (1987 г.). Даўно падрыхтавала зборнік вершаў, але выдаць яго не атрымліваецца. У сучасны момант я не працую, жыву, як многія, бедна, у матэрыяльнай нястачы. Але вершы — пішуцца, хоць пераважна мінорныя. Нізку іх дасылаю Вам. Мо яны, як і калісьці, трапяць на старонкі паважанага "ЛіМа"?*
**Г. С.**

## Галіна САМОЙЛА

### Старасць

Бусел на страсе
Шчасце не прынёс
Дому.
Ходзіць па расе
Ля старых бяроз
Стома.
Села на парог,
Хустачку зняла,
Слабасць.
Сто ці больш трывог
Плача ля стала
З бабай.
Знічку запаліў
На аконным шкле
Вецер.
Доўга ноч баліць.
На падлозе след
Смерці.
А дачка не йдзе,
І сынок не тут
Любы.
Горка. Дзень у дзень
Адзінокі кут
Губіць.

### Маме

Твае рукі, мама, цёплыя і мяккія,
Валасы мне гладзяць і душу.
У жыцці няпростым я была ўсялякаю.
Не крыўдуй на зло маё, прашу.

Як мне сумна, мама, што з табой
дзяліла я
Боль сваіх памылак і няўдач.
Вучыць лёс і ў стратах чуць сябе
шчасліваю,
Я вучыцца ўмею, ты не плач.

Нараканні, мама, думкі вінаватыя
За лясы і моры адпусці.

Ты — не паратунак, я — не памагатая.
Кожны мусіць сам свой шлях прайсці.

Твае вочы, мама, родныя, блакітныя,
Мне глядзяць у вочы і ў душу.
На зямлі і ў небе мы любоўю злітыя.
Ты ў яе магутнасць вер, прашу.

●

Па прыску дня аднойчы пабрыду,
Пад прыскам дня вугольчыкі знайду.
На вуголлях спалю сябе да тла.
Я не адолела свой шлях, я не змагла.

І будзе боль, такі, што не стрываць,
Што змоўкнуць птушкі,
закрычыць трава.
І не паддамся плачу і журбе,
Згару да незваротнасці ў сабе.

Астудзіць ноч мой попел у расе,
Жывой вады крумкач мне прынясе.
Дамоў вярнуся, звыклаю да зла.
Гэта не я даверлівай была.

Па прыску дня аднойчы пабрыду.
У прысак дня разгублена ўпаду.
А я цяпер зайздрошчу і маню...
Навошта я спаліла чысціню?..

●

Сумны лес з апалымі лістамі,
Я пад вечар да цябе прыйду.
Мы ўдваіх над ціхай рэчкай станем,
Заглядзімся ў стылую ваду.
Пацячэ рака па тваёй кроне,
Па маіх плячах і галаве.
Памаўчым на беразе няроўным
У пажоўклай, высахлай траве.
Шэры змрок ахутае нам ногі,
Знікнуць нашы цені на вадзе.
Добры лес, выбоістай дарогай
Ты мяне дадому давядзеш.

Скідзельскі раён, в. Бандары

*Непадалёку ад Гродна на левым беразе Нёмана стаіць вёска Дарашэвічы. Тут у 1935 годзе нарадзіўся Васіль Гайда. Лёс вызначыў яму самую мірную прафесію — будаўніка. Ён працаваў на будоўлях майстрам, прарабам, будаваў жылыя дамы, масты, іншыя аб'екты, пры яго непасрэдным удзеле ў Гродне ўзведзена першая дзевяціпавярхоўка. І яшчэ. Ёсць у Васіля Гайды запаветны занятак — будаўнік піша вершы. Ягоныя радкі, як вянцы зруба, кладуцца важка і грунтоўна, каб свяціцца пад промнямі беларускага прынёманскага сонца.*

**Юрка ГОЛУБ**

## Васіль ГАЙДА

### Нёман

Бы грываю, пазарасталі
Травой густою берагі.
Масты з бетону і са сталі
Глядзяць у глыбіню ракі.

І пад мастом, бы пад дугою,
Імчыцца Нёман шпарка ўдаль.
І мне так хочацца парою
У лодку сесці і — гайда.

### У ваўка свая навука

Спыніўся статак на паляне.
Авечак чулася бляянне,
Пастух стаяў, вучыў ваўка,
Каб не бадзяўся па раўках,

Клыкоў не выстаўляў сваіх
І не хапаў авец старых,
А вучань слухаў і штодня
Са статка выкрадаў ягня.

Вучыць яго — дарэмны справы,
На злодзея няма ж управы,
Хоць чараду ўсю раздзярэ
І чорт яго сам не бярэ.

Ды ёсць на воўка ўсё ж законы,
Што заганяюць у загоны,
На іх жа не дзеля забавы
Вядуць са стрэльбамі аблавы.

## Іван ЛАГВІНОВІЧ

### Парнас

Заўсёды напашэўку папера й самапіска —
запісваць нашаптаныя Музаю радкі.
Парнас — гара крутая, з вяршыняю няблізкай.
І кожны верш — прыступка.
Нямала мне такіх
прыступак трэба ўзвесці,
каб апынуцца ў храме
прыгожага пісьменства
між выбітных майстроў
дасведчаным паэтам і надпіс, хоць на браме,
пакінуць для нашчадкаў: "І я спазнаў любоў!"

### Рамантыка

Абжыты кут здаецца сумным лядам.
Пакратаць трэба, што ляжыць далей
Жаданне зазірнуць за далягляды
дапытлівым спакою не дае.
Даверышся заснежаным прасторам,
у гурбах загрузаючы, брыдзеш.
Не ведаеш, да шчасця ці да гора
на гэты раз сцяжынку пракладзеш.

### Трыялет

Пейзаж з бярозамі і соснамі;
у самым цэнтры — волат дуб.
Да ранаў сэрца прыкладу
пейзаж з бярозамі і соснамі.
Здарожанаму, стане млосна мне,
як на тым месцы не знайду
пейзаж з бярозамі і соснамі,
дзе ў цэнтры — храмам волат дуб.

### Трыадзінства

Я марыў аб узнёслай, беззаганнай,
прачыстай, як эдэмская раса, —
і мне адкрыўся ў храме лік жаданай
на цьмяных старадаўніх абразах.

Зарою велікоднай німб свяціўся.
Я бачыў у адной асобе — тры:
яна ж бо ўвасабляе трыадзінства
жанчыны — маці, жонкі і сястры.

Сплывалі ў Лету туманы падману,
нявер'я расступаліся лясы...
— Будзь маім сынам, мужам,
братам, Янам
ад сённяшняга дня — на ўсе часы!

Марыю-маці і Марыну-жонку,
сястру Марысю ў веры вызнаю.
Я давяраю ім жыцця скарбонку —
душу паспавяданую маю.

г. Баранавічы

## Уладзімір ШПАДАРУК

*Добры дзень, паважаны "ЛіМ"!*

*Дасылаю вам нізку вершаў свайго мужа Уладзіміра Шпадарука (на жаль, сам ён не можа гэтага зрабіць з-за хваробы). Можа, што-небудзь і зацікавіць газету, якую Валодзя кожную пятніцу чакае і чытае з задавальненнем. Усяго вам добрага!*

**З павагай, Ніна ШПАДАРУК**

### Горкія думкі

Ногі не хочуць хадзіць,
Вочы не хочуць глядзець.
Як з гэтым болем жыць —
Думаеш ноч і дзень.

Громам раптоўным з нябёс
Стрэліла ў сэрца бяда.
Долі зламалася вось,
Лёсу правіснуў дах.

Меней усё святла,
Цемра усё цямней,
Радасць згарэла датла,
Зніклі іскрынкі з вачэй.

●

Чатыры сцяны і столь —
Такі майго лёсу набытак.
Усімі на свеце забыты.
Чатыры сцяны і столь.

Пачуцці ушчэнт разбіты,
На сэрцы — туга і боль.
Чатыры сцяны і столь —
Такі майго лёсу набытак.

### Трапнае слова

Памяці У. НЕМІЗАНСКАГА

Ён слова трапнае шукаў
У слоў бязмежжы,
Калі пісаў, калі ваяў
Душою вершы.

Хітрыць, халтурыць не умеў.
За што б ні браўся,
Удзячным полымем гарэў
У светлым трансе.

Сябе не шкадаваў нічуць —
Настаўнік, сейбіт.
Глядзі: анёлы вунь нясуць
Яго у неба.

●

Мяне не трэба шкадаваць:
Маўляў, ён хворы і нямоглы.
Хай мая доля — хлеб палёглы, —
Мяне не трэба шкадаваць.
Мая шчэ ліра не замоўкла
І струны, як раней, гучаць.
Мяне не трэба шкадаваць:
Маўляў, ён хворы і нямоглы...

●

Жыццё — як мокрая ануча,
Смуродзіць толькі — не гарыць.
І так ад гэтага балюча,
І сэрца беднае шчыміць.

Зацятыя, кудысьці крочым,
Ўсе невідушчыя амаль.
І толькі сонейка з-за хмар
Нам усміхаецца прарочa.

●

У смяротных абдымках Чарнобыля
Мы жывём і не бачым выйсця.
Сохнем, вянем асеннім лісцем
У смяротных абдымках Чарнобыля.
Стыне сэрца, а грэла ж калісьці.
Ў чым мы грэшныя, людзі добрыя?
У смяротных абдымках Чарнобыля
Мы жывём і не бачым выйсця.

### Мой шлях

Глухі, бессэнсоўны,
Як сонца без поўні, —
Мой шлях без цябе.

Туманам спавіты,
Слязамі заліты —
Мой шлях без цябе.

Узнёслы, крылаты,
Духоўна багаты —
З табою мой шлях.

Прамы, нескароны,
Адзіны і родны —
З табою мой шлях.

Люблю, ганаруся,
Навек застануся
З табою, мой шлях,
Радзіма мая.





# Для прафесійнікаў і шырокай аўдыторыі




**Беларуская акадэмія мастацтваў — гэта, так бы мовіць, галоўная кузня кадраў нацыянальнай культуры. Але акадэмія — установа не толькі навучальная, але і навуковая. Зразумела, гэта не Акадэмія навук, але ў сценах БелАМ вядуцца сур'ёзныя доследы па ўсіх галінах мастацтва, асэнсоўваецца напрацаваны дзесяцігоддзямі вопыт трох факультэтаў — тэатральнага, мастацкага, факультэта дызайну. Сведчанне гэтаму — выхад у свет другога нумара “Запісак Беларускай Акадэміі Мастацтваў” — “Альманах 99/2”.**

**Першы нумар быў успрыняты культурніцкай грамадою як унікальная з'ява, і вось гэтая з'ява набывае перыядычнасць. Наклад “Альманаха” невялікі — усяго 500 асобнікаў. Відаць, большай раскошы акадэмія, у якой хапае матэрыяльных праблем, дазволіць сабе не можа. Шкада... Бо выданне прыемна трымаць у руках, прыемна гартаць, цікава чытаць. Альманах мае чатыры раздзелы — “Тэорыя і гісторыя мастацтва”, “Мастацкая школа і вопыт: праблемы, перспектывы”, “Хроніка жыцця Акадэміі”, “З гісторыі Беларускай акадэміі мастацтваў. Творчыя партрэты выкладчыкаў БелАМ”. Большасць аўтараў “Альманаха” бярэ непасрэдны ўдзел у навучальным працэсе і навуковых доследах у БелАМ. Але ёсць і такія, што не выкладаюць у акадэміі, але тым не менш таксама блізка ўспрымаюць праблемы нацыянальнай культуры і нацыянальнай мастацкай школы.**

**У шэрагу артыкулаў прысутнічае нечаканы погляд на пэўныя з'явы беларускай культуры, ёсць публікацыі і адкрыта палемічныя.**

**Макет другога нумара “Альманаха”, як і першага, рабіў мастак У. Савіч. Пры ўсёй спецыфічнасці выдання і зарыентаванасці яго на дасведчанага чытача, ён цікавы і чытачу паспалітаму.**

**Рэдакцыйная калегія ўжо рыхтуе трэці нумар.**

**П. В.**

# Кніжная серыя пра глыбінку

**Летапісны збор аб малой радзіме — так можна без перабольшвання назваць кніжную серыю, якую распачало тры гады назад прыватнае мінскае выдавецтва “Пейто” ў асобе яго дырэктара Віктара Хурсіка і пісьменніка Алеся Карлюкевіча, які выступіў рэдактарам серыі “Ведаць свой край Беларусь”.**

**Дарэчы, адной з першых кніг была праца самога Аляксандра Мікалаевіча са споведдзю аб сваёй малой радзіме на Пухаўшчыне. І вось на працягу гэтага часу высілкамі прафесійных краязнаўцаў і проста заўзятых аматараў мясцовай даўніны ў выдавецтве выйшла ўжо восем цудоўных кніжак пра, здавалася б, звычайныя беларускія вёсачкі. Пры знаёмстве ж з выкладзеным матэрыялам высветлілася, якая багатая і цікавая ў іх гісторыя, якія непараўнальныя, адметныя культура, побыт, тапаніміка, фальклор і якія цудоўныя, працавітыя, гераічныя людзі.**

**Але сюрпрызам у гэтым шэрагу аказаліся дзве працы старшыні Хальчанскага сельсавета з Веткаўшчыны Уладзіміра Цейкіна, дарэчы, заатэхніка па спецыяльнасці, вядомага дагэтуль серыяй вучэбных і навукова-папулярных кніг пра жывёлагадоўлю. Мне, як земляку У. Цейкіна, прызнаюся, прыемна было азнаёміцца з яго спробамі ў летапіснай справе: аповедамі пра вёскі Хальч і Радуга Веткаўскага раёна. А цяпер у выдавецтве рыхтуецца яшчэ адзін краязнаўчы нарыс “Навасёлкі”.**

**Рыгор ГАНЖУРАЎ**

## Надзея САЛОДКАЯ

●

*Я зусім не тая птушка,*
*Я зусім не птушка нават.*
*Зімавей сумёты гушкаў*
*І віхуры з поўным правам.*

*Я зусім не тая песня,*
*Што над сцюжаю грымела.*
*Пазалеташнім прадвеснем*
*Аддала усё, што мела.*

*Пазаўчора адлюбіла,*
*Сярод лета адхрыпела.*
*Восень сны усе дасніла*
*Пры дарозе бела-белай.*

### Паўторы

*Паўтараюцца словы, справы,*
*Паўтараюцца сны і страхі.*
*У чарговы паўтор дзіравы*
*Вылятаюць імгненні-птахі —*

*Ці то дзеці, можа, ўнукі*
*Шчодрай Вечнасці і Сусвету.*
*Працінаюць стагоддзі рукі*
*Праз мяне у сівую Лету.*

*Паўтараюцца поры года*
*Непаўторнасцю успрыняцця —*
*Ўсё жыццё падбіраю коды*
*Да тайніцаў свайго багацця.*

●

*Што ж, пакуль я шчырая,*
*Наталяйся, пі!*
*Перад дальнім выраем*
*Развітанне спіць.*

*Уздыхнулі, грукнулі*
*Колы на разбег,*
*Сосны даўгарукія*
*Нікнуць у журбе.*

*Раніцай прыцішанай*
*Абарвайся спеў.*
*Песня — трэцяй лішняю...*
*Толькі сум паспеў.*

●

*Гэты свет — ноч і дзень — часу мера...*
*Я, як вораг закляты сабе.*
*Срэбрам свеціцца зорка Венера,*
*Па-над лёсам змарудзіўшы бег.*

*У пытаннях заблытаўся розум,*
*Падсвядомасць хавае разлік,*
*Захмялеўшы ад поўнае дозы*
*Непрытульнасць прастуе ў цалік.*

*Гэты свет, гэты стогн, гэта ростань...*
*І тугі аднавокі прыцэл.*
*Неўспадзеў невідушчаму проста*
*Захлынуцца у хмельнай рацэ.*

## Алесь КЛАЧКОЎ

### Камін

*Ніколі не знойдзеш ратунку,*
*Знікаюць палацы і мур.*
*Няма ў гэтым свеце прытулку,*
*Няхай жа не будзе й хаўтур.*

*А вецер за вокнамі стогне,*
*На дрэвы кідае імжу,*
*Хоць кожнае з часам засохне,*
*Па-іншаму зараз гляджу.*

*Не будзе сканчэння жывому,*
*Нараджуць з засохлага дроў,*
*І з полымем свету другому*
*Адыдзе іх цёплая кроў.*

●

*Нічога не вернецца з далі,*
*Туды і дарогі няма.*
*Дарэмна палёгкі чакалі,*
*Туга не праходзіць сама.*

*Няўпэўненасць вочы студзіла*
*І ветру амаль не было.*
*І сонца з-за хмар не свяціла,*
*А думкі па колу вяло.*

*Чаканне як сэнс спадзявання.*
*Чаго і адкуль — не сказаць.*
*І гэтак да самага рання*
*З тугою жыццё стасаваць.*

## Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ

### Незабыўны вобраз

*Развялі нас умоўныя межы,*
*А твой вобраз у думках жыве.*
*Пакланяюся я Белавежы,*
*Ты адданы славутай Няве.*
*Сэрца ўпотай спаткання прароча,*
*Сагравае кахання расток.*
*Разрасціся шырока ён хоча —*
*Прынясі жыватворны глыток.*
*Ты маўчыш, ты жывеш у нязнанні.*
*Як адправіць, на хвалі якой*
*Мой прыглушаны голас кахання,*
*Каб пачуў сваёй добрай душой.*
*Нам, напэўна, не зведаць сустрэчы.*
*Іранічна так вызначыў лёс.*
*На яго наракаць недарэчы.*
*Дзякуй лёсу, што мары узнёс.*
*Калі ж я ад зямлі адарвуся,*
*Апынуся за далю аблок,*
*Пабывай у маёй Беларусі,*
*Пад бярозкай пастой хоць разок.*

## Тамара МАЗУР

### Кожнаму сваё

*Ёсць сяброўкі, верныя сябры*
*Тут, у шматпакутнай Беларусі.*
*Тут, дзе смуткам скутыя бары,*
*Ні на кога з хціўцаў не злуюся.*

*Кожнаму — сваё, з усімі — Бог.*
*І няпраўда: ён пароўну дзеле —*
*Некаму багацце — як астрог,*
*І высокі чын — як прышч на целе.*

*У мяне ж ні грошай, ні чыноў,*
*Проста так — сама ў сабе варуся.*
*За свайго і за чужых сыноў*
*Кожны вечар перад сном малюся...*

### Нельга

*“Трэба дома бываць часцей,*
*Трэба дома бываць не госцем...”*
*Гэтую песню прапець лягчэй,*
*Чым пабыць у радзімай вёсцы.*

*Мноства клопатаў дзень за днём,*
*Выжыванне і спажыванне.*
*Настальгічны прысніцца сон —*
*Вось і ўсё маё ратаванне.*

*Ды чым далей свой воз цягну,*
*Чым глыбей спазнаю я існасць,*
*Тым мацней адчуваю віну*
*За сваю гарадскую прыналежнасць.*

*Ўсё часовае тут, як дым,*
*Хоць паверыць мне цяжка ў гэта,*
*Нельга быць душой маладым*
*Без вясковае казкі лета.*

*Нельга гэтак жа прырасці*
*Да чужой зямлі, як да роднай,*
*І без веры ў свой род прайсці,*
*Нельга вытрымана і годна.*

*“Трэба дома бываць часцей...”*

г. Стоўбцы

## Галіна КАСПЯРОВІЧ

### Заручыны

*Твая уладная бязважкая рука*
*Маю далоньку пад сабой хавала.*
*Зямля нас гушкала, як лодачку рака.*
*І слодыч неба вочы закрывала.*

*А вусны прагнулі глыточка чысціні,*
*Май сэрцы лашчыў зводна праз аблокі —*
*Нібы навечна нас імкнуўся парадніць,*
*Нібы ўсур'ёз жадаў наблізіць рай далёкі.*

*...Сфалою стоенасць рассеклі*
*дзве душы —*
*І рэха падхапіла воклік: “Любы!..”*
*Жыццёвым бурам хай не ўдасца заглушыць*
*Прысуд вякоў, з якім ідзём да шлюбу.*

### Разгубленасць

*Залева абдымае хату,*
*Нібыта ставіць перад фактам,*
*Што да мяне табе — ні-ні.*
*І скрухай дыхаюць агні:*
*Паўсюль тваіх прызнанняў краты.*
*...Ты ж ратаваў... Як стаўся катам?*

## Іна АМЕЛЬЧАНКА

### Белая Птушка

*У белых пялюшках,*
*на мяккіх падушках*
*загойдаў — загушкаў*
*сон Белую Птушку.*

*У чуйнай прасторы,*
*маўклівай прасторы,*
*не помнячы стомы,*
*маліліся зоры.*

*Магутны наш Божа!*
*Ва ўсіх падарожжах,*
*на ўсіх бездарожжах*
*ратуй ад бязбожжа!*

*Ратуй ад двурушша*
*Раз'юшаных катаў*
*дзяцей гэтай Птушкі —*
*малых птушанятаў.*

*У золкім палоне,*
*нясцерпным палоне*
*няхай не патоне*
*прыродны іх сорам!*

*Няхай не патоне*
*прыродны іх гонар,*
*паходняй ўзвіецца*
*над сінню азёраў!*

*Зіхціць хай над светам*
*двухколернай стужкай*
*імя іхняй маці,*
*імя Белай Птушкі...*

*Над беллю пялюшак,*
*спакоем падушак,*
*не помнячы зморы,*
*маліліся зоры...*

г. Беразіно



Сяргей Грахоўскі ў Караліщавічах, 1975 г. Фота Я. КАЗЮЛІ

ПЕРАКЛАДЫ

Эдгар ПО

# Званы

I

*Чуеш — сані дзесьці й звон —*
*Срэбны звон!*
*Колькі радасці і шчасця*
*выклікае ён!*
*Як звініць, звініць, звініць*
*Скрозь марознае паветра!*
*Неба ў зорках зіхаціць*
*І сузор'ямі блішчыць,*
*Звонам поўны подых ветру!*
*Пераліві срэбных струн*
*Згучны песням даўніх рун,*
*І званочкі у свет цэлы пасылаюць*
*свой паклон —*
*Дзіўны тон, тон, тон, тон,*
*Тон, тон, тон —*
*Светлы і гулліві, меладычны тон.*

II

*Блаславён вясельны звон —*
*Велічальны звон!*
*Залаты і поўны шчасця,*
*гарманічны ён!*
*Скрозь начы таемны сон*
*Чысты тонкі перазвон*
*Згодна з песняй голас свой*
*Падае;*
*І празрыстаю ракою*
*У галубчыны пакоі льецца месяц —*
*Раздае*
*Бель начы ў святыя келлі —*
*Звонам поўніцца вяселле!*
*Які звон!*
*Ясны звон*
*І пра будучае шчасце*
*І парывы юнай страсці*
*Мроіць ён —*
*Гэты звон, звон, звон!*
*Юны звон, звон, звон, звон*
*Звон, звон, звон —*
*Пераліўны залаты вясельны звон!*

III

*Медны дзесь трывожны звон —*
*Грозны звон!*
*Што за жахі, боль і крыўду*
*спараджае ён!*
*Сполах чутны у паветры —*
*Быццам з найглыбейшых нетраў*
*Духі рвуцца гора зваць,*
*Б'юцца, плачуць і крычаць*
*Так нязгодна!*
*Раздуваючы звыродна полымя,*
*што ўсё мацней*
*Дзікай лютасцю шугае,*
*разгараецца ярчэй,*
*Скача, рвецца ўсё вышэй;*
*А надзея — ўсё слабей;*
*А агонь ўсё прагне болей*
*Знішчыць — зараз ці ніколі —*
*Тварык месяца лагодны!*
*Медны стогн,стогн, стогн!*
*Разбуральны, жорсткі стогн!*
*І адчай*
*Рве званы лязом тупым;*
*І ад роспачы сляпым*
*Стаў замучаны бядою небакрай.*
*Ловіць неспакойна вуха*
*Гоман гнюсны,*
*Смех распусны*
*Полымя прыліваў скруху!*
*Так гудзіць і б'е набат —*
*Рэзкі гук,*
*Сэрца стук,*
*Зноў прыліў і зноўку спад*
*Гнеўнай сілы, што няўмольна*
*пасылае нам набат —*
*Б'е набат —*
*Зноў набат, набат, набат,*
*Б'е набат —*
*Роспач, гора, гнеў,*
*пакуту шле набат!*

IV

*Чуеш — там жалезны звон —*
*Цяжкі звон!*
*Пахавальны, развітальны,*
*сумны-сумны ён!*
*У нямым паветры ночы*
*Болем ў сэрцы ён грукоча,*
*Быццам гукі ўсе зліліся*
*ў слёзны тон!*
*Горка, хмурна і дрыготка*
*Стогне ён іржавай глоткай —*
*Хворы стогн.*
*І зняверанья людзі,*
*Што глядзяць ў адчайным спудзе,*
*Бачаць — ён,*
*Той, што гулкі звон кранае —*
*Цёмны, цяжкі, нудны звон —*
*Сэрца ў камень апранае,*
*Насылае змрочны сон —*
*То не людзі пазіраюць —*
*Вурдалакі вылятаюць*
*І рагочуць; —*
*І званы ізноў ракочуць,*
*Цар іх злосны цёмнай ноччу*
*Пахавальны спеў складае,*
*З дзікай радасцю чакае*
*Гімн сабе з-за небакраю*
*І з насмешкай зазывае*
*На вядзьмарскі свой разгул;*
*Звон ужо ў працяжны гул*
*З роспачу перарастае,*
*Разрывае*
*Пераліў самотных струн,*
*Згучны жальбе даўніх рун;*
*Грукат і няспынны гул —*
*Змрочны гул, гул, гул —*
*Роспачны, пякучы гул —*
*Хрып і скрыпы рваных струн, —*
*Рэзкі гул, гул, гул —*
*Згодна плачу даўніх рун, —*
*Стомлены, адчайны гул —*
*Доўгі гул, гул, гул —*
*Зацяжны магільны гул —*
*Страшны гул, гул, гул, гул,*
*Гул — гул — гул —*
*Адпявальны, пахавальны,*
*чорны гул.*

**Пераклад з англійскай Наталлі ЛАМЕКІ**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў

**аб'яўляе набор у аспірантуру з адрывам і без адрыву ад вытворчасці па спецыяльнасцях:**

17.00.01 "Тэатральнае мастацтва"
17.00.03 "Кіна- і іншыя экранныя мастацтвы"
17.00.04 "Выяўленчае, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і архітэктура"
17.00.06 "Тэхнічная эстэтыка і дызайн"

**Прэтэндэнты падаюць наступныя дакументы:**

1. заяву на імя рэктара;
2. аўтабіяграфію;
3. характарыстыку-рэкамендацыю з месца работы (для выпускнікоў ВНУ 2001 года — рэкамендацыю савета ВНУ);
4. копію дыплома аб вышэйшай адукацыі і дадатка да дыплома;
5. копію працоўнай кніжкі, завераную аддзелам кадраў па месцы працы;
6. рэферат па абранай тэме;
7. спіс і копіі апублікаваных навуковых работ;
8. копіі дакументаў аб здачы кандыдацкіх экзаменаў (пры наяўнасці);
9. 3 фотакарткі памерам 4х6.

*Пашпарт, дыплом і дакументы аб здачы кандыдацкіх экзаменаў прад'яўляюцца асабіста.*

**Дакументы прымаюцца з 15 верасня па 15 кастрычніка 2001 г. па адрасе: 220012, г. Мінск, праспект Скарыны, 81, аспірантура, каб. 505, тэл. 231-59-15.**



*Удалае паляванне Хведара Гурыновіча.*
Вясна, 1999 г., Брэстчына.

Мікола ШАБОВІЧ

## Прысвячэнні, эпіграмы

### Раісе Баравіковай

*Яна й рэдактар, і паэт,*
*З ёй кожны хоча павітацца.*
*Напэўна, ведае сакрэт*
*Усім мужчынам падабацца.*
*Яно й не дзіва: лёс звязаў*
*З лірычна-песенным "Юнацтвам".*

### Будучаму сябру СП

*Здымі з плячэй сумненняў груз,*
*Параду выслухай без злосці:*
*Дарога блізкая ў Саюз*
*З "Бібліятэкі "Маладосці".*

### Літсапернікам Міхася Зарэмбы

*Хай ты скандальны, як Рэмбо,*
*І маеш біцэпсы, як Рэмба,*
*А "Спас Архавы" слаба*
*Так напісаць, як змог Зарэмба?*

### Уладзіміру Мазго

*Ты песень столькі напісаў,*
*Што за табой, бадай, не ўгнацца.*

### Пайлу Саковічу

*І вершы піша ён, і прозу,*
*І для малых, і для старэйшых,*
*І парадыст бывае грозны —*
*Грахі шукае ў кожным вершы.*

### Міхасю Хамцу

*Над кожным нумарам шчыруе,*
*Здаецца, ў "Раніцы" й начуе.*
*А жонка звоніць, сварыцца:*
*— Міхась! Прыйдзі хоць раніцай!*

### Яўгену Хвалею

*Як ні хавайся ты, Яўген,*
*За псеўданім, — чытач пазнае,*
*Будзь ты Занёманскі Аўген,*
*Будзь ты хоць Жэня з-пад Дуная.*

Анатоль ЦЫРКУНОЎ

### Аб сольных спевах

*На жаль, у прыродзе нярэдка бывае,*
*Што важная птушка фальшыва спявае.*

### Адно крыўдзей другога

*Часамі шмат каму здаецца,*
*Што фарс з трагедыі смяецца.*

### З сярпом і молатам

*Не з касою, а з сярпом і молатам*
*Прыходзіла смерць па беднага волата.*

### Зручная мішэнь

*Стрэлы да Сланоў не далятаюць —*
*Кожны раз у Мосек пападаюць.*

ПАРОДЫІ

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Незайздросны лёс

Польша. Палессе.
Хоць разарвіся.
. . . . . . . . . . . . .
Песню мне пела
Пані Марыся.
**Міхась БАШЛАКОЎ**

*Польша. Палессе.*
*Хоць разарвіся.*
*Дома — Алеся.*
*У Польшы — Марыся.*

*З'ехаў з Палесся —*
*Плача Алеся.*
*З Польшы памкніся —*
*Хныча Марыся.*

*Доўга круціўся.*
*Польша. Палессе.*
*Год — у Марысі.*
*Год — у Алесі.*

*Неяк з'явіўся*
*Зноў на Палессе.*
*"Не запыліўся?" —*
*Дзьмецца Алеся.*

*Пані Марыся*
*Нос адвярнула.*
*"Лёсу скарыся", —*
*Муза шапнула.*

*Гоніць Алеся.*
*Гоніць Марыся.*
*Польша. Палессе.*
*Хоць утапіся.*

Пятрок ШЭРКА

●

З нагоды абрання Навума Гальпяровіча намеснікам старшыні СБП

*Зноў народу*
*Вельмі любы*
*Энергічны сын*
*Якуба,*
*Сын Якуба,*
*Муж Марыі...*
*Любім кадры мы*
*Старыя*.*

**Старыя — вопытныя.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2506
Нумар падпісаны ў друк 12.7.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 3917

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12